# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ

## Дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“

**№ 9—10 (13—14)** **Сьнежань 1929 г.** **№ 9—10 (13—14)**


### ЗЬМЕСТ



# НА ЧАЛЕ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭКАНСТРУКЦЫІ

*(Газэта „Праўда“ аб рабоце сел.-саветаў).*

Лістападаўскі Пленум ЦК УсеКП(б) прызнаў „важнейшай задачай Саветаў, асабліва ў вёсцы, усямернае ўзмацненьне ўвагі справе калектывізацыі“.

Гэта пастанова выклікана тым, што нізавыя органы пралетарскай дыктатуры—сельскія саветы—усё яшчэ не перабудавалі сваёй работы ў адпаведнасьці з новымі задачамі, што яны далёка не зьяўляюцца штабамі і кіраўнікамі сацыялістычнай перабудовы вёскі, пераводу дробнай індывідуальнай гаспадаркі на рэйкі буйнай аграмаджанай вытворчасьці, арганізатарамі разгорнутага сацыялістычнага наступу на капіталістычныя элемэнты вёскі.

Праўда за апошні год у справе ўзмацненьня і ажыўленьня сельскіх саветаў мы дабіліся значных посьпехаў. Мінулыя выбары ўзмацнілі іх лепшымі, вытрыманымі работнікамі. Узмацнілася партыйнае кіраўніцтва. У шэрагу месц ня кепска працуюць групы беднаты. Павялічана колькасьць сельсаветаў з самастойнымі бюджэтамі. У шэрагу раёнаў праведзены курсы па перападрыхтоўцы нізавых савецкіх работнікаў. У бліжэйшы час у вышэйшых савецкіх органах будзе разглядацца праэкт новага Палажэньня аб сельскіх саветах (які зараз абгаварваецца на мясцох), якое дасьць моцную арганізацыйную і матар'яльную базу ўсёй рабоце сельсаветаў. Але ўсяго гэтага далёка яшчэ недастаткова. Перабудова працы сельсаветаў праходзіць зусім недастатковым тэмпам, адстаючы ад тых вялізарнай палітычнай і гаспадарчай важнасьці задач, якія высоўвае перад нізавымі органамі савецкай улады буйны рост калектывізацыі. Аб гэтым сьведчыць апошняя хлебанарыхтоўчая кампанія, а таксама і апошнія пасеўныя (вясновая і асеньняя) кампаніі, якія праходзілі ва ўмовах шалёнага супраціўленьня капіталістычных элемэнтаў.

З перабудовай форм і мэтадаў работы сельсаветаў трэба пасьпяшыць. Разрыў паміж задачамі ў галіне сацыялістычнай

перабудовы вёскі і становішчам сельсаветаў павінен быць зьліквідаваны.

Канкрэтна ўжо на працягу бягучага гаспадарчага году мы ставім перад сабою баявую і ўпаўне рэальную задачу—павялічыць пасеўную плошчу саўгасаў і калгасаў да 18.280 тыс. га (в 1929 г.—6.078 тыс. га), давесьці таварную прадукцыю калгасаў да 45 млн. цэнтнэраў. Пяцьдзесят процантаў ўсяго таварнага хлеба ў 1930 годзе павінен даць аграмаджаны сэктар. Мы абганяем тэмпы, намечаныя пяцігадовым плянам; шэраг раёнаў (Паўночны Каўказ, Ніжняя Волга і інш.) ня толькі бярэцца выпаўніць пяцігадовы плян калгаснага будаўніцтва ў два гады, але і перавысіць яго. Буйны рост калектывізацыі ідзе па лініі ўзбуйненьня дробных калгасаў па лініі ахопу больших масываў. Так, ужо ў бягучым годзе суцэльная калектывізацыя ахопіць каля 3 млн. га сялянскіх пасеваў. Вёска пакрываецца сеткай машына-трактарных станцый і трактарных калён (вёска атрымае 40 тыс. умоўна дзесяцісільных трактараў). Капітальныя ўкладаньні ў сельскую гаспадарку павялічваюцца да 4,3 мільярда рублёў (па пяцігодцы было намечана тры з паловай мільярды). Калі да ўсяго гэтага дадаць вялікія задачы па падняцьцю ўраджайнасьці ў галіне культурнага будаўніцтва і г. д., дык стане зусім зразумелай тая вялізарная роля, якая кладзецца на нізавыя органы савецкай ўлады ўжо ў бягучым годзе, зараз, сёньня. І аднычасова зусім ясна відна, што разрыў між нашымі задачамі ў галіне калектывізацыі з аднаго боку і работай сельсаветаў—з другога, павінен быць ліквідаваны. Чым хутчэй будзе гэта зроблена, тым пасьпешнее будзе наша праца па рэалізацыі намечаных кантрольнымі лічбамі плянаў сацыялістычнай перабудовы вёскі.

Ці дастаткова і ці ўсе нашы арганізацыі гэта ўразумелі? Далёка недастаткова і далёка яшчэ ня ўсе. Зусім нядаўна шэраг мясцовых газэт зьмяшчалі артыкулы, у якіх праводзілася тэндэнцыя калі ня поўнай ліквідацыі сельсаветаў у раёнах суцэльнай калектывізацыі, то значнай урэзкі праў сельсаветаў за кошт перадачы гэтых праў праўленьням і саветам калгасаў.

Цэнтральны Камітэт прызнаў няправільнай і недапусьцімай ліквідацыю сельсаветаў у раёнах суцэльнай калектывізацыі. Мясцовыя партыйныя арганізацыі павінны цьвёрда помніць, што „шырокае разгортваньне калгаснага руху працякае ў абставінах абвостранай клясавай барацьбы ў вёсцы і са зьменай яе формы і мэтадаў“..., што „ў самых калгасах асабліва ў калгасах первічнага тыпу, па колькі ў іх далёка яшчэ не аграмаджаны ўсе сродкі вытворчасьці і наогул моцны дробна-ўласьніцкія інтарэсы, застаецца значная небясьпека кулацкіх уплываў (рэзалюцыя лістападаўскага пленуму ЦК). Шэраг яскравых фактаў кулацкага засільля ў паасобных калгасах, апублікаваных за апошнія м-цы ў нашых цэнтральных і мясцовых газэтах („Красный мелиоратор“ и друг.), зьяўляюцца добрымі ілюстрацыямі таго, што кулак зьмяняе сваю тактыку, што ён вядзе сваю барацьбу супроць калгасаў, супроць сацыялістычнага наступу. ў формах і рознымі мэтадамі. І тут у барацьбе супроць капіталістычных элемэнтаў, у справе разгортваньня шырокага сацыялістычнага наступу роля сельсаветаў, як нізавых органаў пралетарскай дыктатуры, становіцца асабліва важнай і адказнай.

Неабходна спыніць усякія дыскусіі аб тым, ці патрэбны сельсаветы ў раёнах суцэльнай калектывізацыі, ці патрэбна тую альбо іншую частку іх функцый перадаць праўленьням альбо саветам калгасаў. Гэтыя дыскусіі нічога акрамя шкоды ня могуць даць. Устаноўка павінна быць тут адна і зусім пэўная—з усей энэргіяй узяцца за ўзмацненьне сельсаветаў і за далейшае ажыўленьне іх работы. І гэта ня толькі ў раёнах суцэльнай калектывізацыі, а ўсюды. Лістападаўскі Пленум ЦК прапанаваў накіраваць увагу саветаў „на найбольш поўнае і першачарговае абслугоўваньне насельніцтва калгасаў на ператварэньне іх у базы пад‘ёму і сацыялістычнай перабудовы сельска-гаспадарчай вытворчасьці, у базу агракультурных, бытавых і культурных мерапрыемстваў саветаў. Неабходна ўзмацніць кіруючую ролю саветаў у адносінах да калектываў, павысіць адказнасьць саветаў за калгаснае будаўніцтва, увесьці ў сыстэму справаздачнасьць калгасаў перад саветамі, не дапускаючы, аднак, дробнай апекі і адміністраваньня ў кіраўніцтве калгасамі“.

Гэту дырэктыву Пленуму ЦК неабходна рашуча праводзіць у жыцьцё. Выходзячы іменна з яе, неабходна вырашаць усе ўзьнікаючыя на мясцох практычныя пытаньні: радыус абслугоўваемага сельсаветам участка, роля куставых саветаў, дэпутацкіх груп і ўпаўнаважаных, формы сувязі паміж вытворчымі нарадамі саўгасаў і калгасаў з сельскімі і вытворчымі нарадамі (сельска-гаспадарчыя сэкціі сельсаветаў). Рабочыя саўгасаў і калгасьнікі павінны зьявіцца аснаўным ядром сельсавету і яго сэкцыі і камісій. Групы беднаты пры сельсаветах павінны зьявіцца моцна арганізуючай сілай, яны павінны аказваць уплыў на ўсю работу савету, павінны дабівацца, каб сельсавет ва ўсёй сваёй рабоце праводзіў чоткую клясавую пралетарскую лінію.

Вялікую дапамогу мясцовым арганізацыям у справе ажыўленьня работы саветаў, у справе прывядзеньня яе ў суадпаведнасьць з задачамі сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі могуць і павінны аказаць рабочыя брыгады. Задача гарадзкіх партыйных арганізацый—падрыхтаваць ад'яжджаючых у вёску рабочых да гэтай важнай працы. Для гэтай мэты ў прыватнасьці трэба скарыстаць курсы для індустрыяльных рабочых, едучых у калгасы (пасылка 25.000 па пастанове Пленуму ЦК).

Перад нізавымі органамі пралетарскай дыктатуры пастаўлены вялізарныя задачы. Сельсаветы павінны зьявіцца сапраўднымі штабамі сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, павінны ісьці на чале гэтай рэканструкцыі. Пасьпяхова справіцца з пастаўленымі перад сельсаветамі задачамі яны змогуць толькі пры ўмове ўзмацненьня і паляпшэньня партыйнага кіраўніцтва савецкай работай.

# ВЫНІКІ ДРУГОЙ СЭСІІ ЦВК БССР IX СКЛІКАНЬНЯ

Другая Сэсія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР адбылася ў надзвычайна адказны момант будаўніцтва сацыялізму. Прайшоў толькі год з часу зацьверджаньня пяцігадовага пляну. Ворагі рабоча-сялянскай краіны шмат страхаў сеялі і зьбіваюць з панталыку сягогаго з найбольш няўстойлівых элемэнтаў у асобе праваўхілістых і малавераў ў магутнасьць рабочае клясы. Тымчасам, пры прапрацоўцы пляну па асобных галінах народнае гаспадаркі і ажыцьцяўленьні яго выявілася, што пяцігадовыя разьлікі хутчэй прыўменшаны, чымся прыўвялічаны. Толькі год сталай працы відавочна паказаў нават усім няўпэўненым у магутнасьць сацыялістычнага размаху, што па шмат якіх галінах (прамысловасьці, напрыклад)—плян удасца выканаць у чатыры гады і нават праз тры.

Гэтую асаблівасьць ЦВК у пачатку сваёй працы на Сэсіі яскрава падкрэсьліў і паставіў у абавязак усім адпаведным органам дабіцца выкананьня гэтай задачы, бо гэта магчыма.

Зараз нават заўзятым ворагам сацыялістычнага будаўніцтва стала ясна, што аб магутную настойлівасьць, волю і ўпартую працу рабочае клясы ў цесным саюзе з бядняцка-серадняцкім сялянствам, на падставе магутнага размаху сацыялістычнага спаборніцтва, разьбіваюцца і дашчэнту зьнішчаюцца апошнія надзеі і пазыцыі капіталістычных элемэнтаў гораду і вёскі.

Зараз кожнаму відаць, што самыя сьмелыя нашы меркаваньні выпярэджваюцца шпаркім ўздымам тэмпаў і творчай рэвалюцыйнай энэргіі мільёнаў рабочых, батракоў, сялян-беднякоў і сераднякоў, якія цьвёрда паставілі сабе задачу—дагнаць і выпярэдзіць тэхнічна вышэй за нас абсталяваныя краіны капіталізму. І зьяўляецца зусім бясспрэчным, што пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі гэта будзе зроблена.

На падставе ўжо шырока разгорнутага сацыялістычнага будаўніцтва ва ўсіх галінах нашай народнай гаспадаркі ўсе сябры ЦВК яшчэ адзін раз упэўніліся у тым, што заўзятая барацьба двох сыстэм, двох элемэнтаў—сацыялістычнага і капіталістычнага як у горадзе, гэтак і ў вёсцы канчыцца *перамогай сацыялізму*.

Пераходзячы да паасобных пытаньняў разгледжаных Цэнтральным Выканаўчым

Камітэтам на апошняй Сэсіі, трэба сказаць, што праца ЦВК праходзіла ў напрамку найшпарчэйшага разгортваньня справы пабудовы сацыялізму на аснове плянавых разьлікаў, на падставе маючыхся на гэты конт дырэктыў камуністычнай партыі і пастаноў апошняга IX Зьезду Саветаў. Праца Сэсіі праходзіла пад кутом гледжаньня праверкі сталага і няўхільнага ажыцьцяўленьня гэтых дырэктыў.

Выходзячы з гэтых акалічнасьцяй 2-я Сэсія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР, ухваліўшы кантрольныя лічбы народнае гаспадаркі і культуры БССР на 1929-30 год, аб якіх далажыў Савет Народных Камісараў, *адзначыла*, што ў іх яскрава адбіта генэральная лінія камуністычнай партыі і савецкай улады на высокі, напружаны тэмп індустрыялізацыі краіны, саўгаснага будаўніцтва і на шырокае разьвіцьцё калектывізацыі вёскі, як асноўнага шляху сацыялістычнага перацварэньня сельскай гаспадаркі БССР. Кантрольнымі лічбамі выразна адбіта лінія на далейшае замацаваньне пазыцый сацыялізму і рашучага наступу на нэпманска-кулацкія элемэнты гораду і вёскі. Кантрольнымі лічбамі адбіты шырокія мерапрыемствы па падвышэньні матар'яльнага і культурнага ўзроўню рабочых, батракоў і бядняцка-серадняцкага сялянства.

Як асноўныя паказчыкі росту народнае гаспадаркі і культуры БССР Сэсія ЦВК адзначыла:

*Па прамысловасьці:*—рост валавой прадукцыі па цэнзавай прамысловасьці на 60,9 проц., падвышэньне вытворчасьці працы на 29,6 проц., рост намінальнай заработнай платы — на 8 проц., што з улікам зьніжэньня бюджэтнага індэксу павінна даць рост рэальнай зарплаты на 11 проц. Зьмяншэньне сабекошту прамысловай прадукцыі маем на 11 проц., капітальныя ўкладаньні прамысловасьці вызначаюцца ў суме 52 міл. руб., зьніжэньне будаўнічага індэксу на 13 проц. Асаблівая ўвага Сэсіяй ЦВК зьвернута на падвышэньне якасьці прамысловай прадукцыі.


А. СТАШЭЎСКІ.

Паказчыкам росту сельскай гаспадаркі зьяўляецца — пашырэньне пасеўнай плошчы на 4 проц., падвышэньне ўраджайнасьці ня менш, як на 20%, па індывідуальных сельскіх гаспадарках, на 25% у калгасах і 30 проц. у саўгасах супроць сярэдняга ўраджаю 1924—1928 г., капітальныя ўкладаньні ў сельскую гаспадарку Сэсіяй вызначаны ў разьмеры 59,5 міл. р.

Сэсія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР адзначыла, што пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б і Ураду БССР у галіне сельскай гаспадаркі праведзена рашучае выпраўленьне няправільнай палітыкі, якая праводзілася Наркамземам і яго органамі на мясцох, якая выразілася ў падтрыманьні кулацкіх гаспадарак, у выніку якое ў практыцы наглядалася распаўсюджваньне хутароў, адрубоў, карлікавых пасёлкаў замест разгортваньня калектывізацыі сельскай гаспадаркі.

Зазначаныя моманты вымагаюць ад усіх гаспадарчых і савецкіх устаноў напружанай штодзеннай працы, праведзеньня выразнай клясавай лініі па ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва. Патрэбна цьвёрдая плянавасьць і строгая гаспадарча-фінансавая дысцыпліна, усямернае разьвіцьцё сацыялістычнага спаборніцтва, як найлепшага мэтаду працы, гуртуючы навакол выкананьня пяцігадо-

вага пляну шырачэйшыя масы працоўных гораду і вёскі.

Другім і самым цэнтральным пытаньнем Сэсіі ЦВК БССР было пытаньне калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Па гэтым пытаньні, апрача дакл. НКЗему—Сэсія ЦВК заслухала і садаклад аб суцэльнай калектывізацыі Клімавіцкага раёну.

Рабочай клясай і працоўным сялянствам БССР пад кіраўніцтвам кампартыі пастаўлена перад сабой найвялікшая задача скарэйшай пабудовы сельскай гаспадаркі на сацыялістычны лад.

Амаль два гады прайшоўшыя пасьля XV Зьезду УсеКП(б) падкрэсьлілі ўсю бясспрэчнасьць пастаноў зьезду пра шляхі сацыялістычнай перабудовы вёскі. Шпаркі рост калектывізацыі, ахоп кантрактацыяй шматлікіх сялянскіх гаспадарак, пабудова магутных калгасаў—вось працэс перабудовы сельскай гаспадаркі, які ідзе ўсе больш шпаркім тэмпам, які знайшоў яскравы адбітак у пяцігадовым пляне перабудовы сельскай гаспадаркі.

СССР будуе калгасы ў разьмерах, якія далёка перавышаюць пяцігадовыя разьлікі. Мільёнам рабочых і працоўнага бядняцка-серадняцкага сялянства становіцца ўсё больш і больш зразумелым, што барацьба за ўраджай можа і павінна даць неабходныя вынікі ў тым выпадку, калі яна будзе весьціся на аснове сьмелага правядзеньня мерапрыемстваў партыі і савецкай улады па калектывізацыі.

За апошні год (па становішчу на 1 кастрычніка 1929 г.) працы плошча пад калгасамі ў БССР пашырылася з 94.458 да 336.720 га. Імкненьне асноўных бядняцка-серадняцкіх мас у калгасы ўсё узрастае, аб чым сьведчыць аграмаджаньне толькі за кастрычнік месяц бягучага году звыш 200.000 га; на 15 лістапада пад калгасамі знаходзіцца ўжо звыш 574.619 га.

Арганізуюцца ўжо буйныя калгасы на плошчы ў 5.000, 7.000 і 12.000 га. Разгорнута праца па суцэльнай калектывізацыі цэлых раёнаў і асобных акруг.

Асноўныя бядняцка-серадняцкія масы вёскі, пры дапамозе і пад кіраўніцтвам рабочае клясы і яго авангарду—камуністычнай партыі, пераканаўшыся ў пераважнасьці калектыўных форм землеробства на практычных выніках гаспадарчай дзейнасьці калгасаў і саўгасаў, шырока разгарнулі самадзейнасьць і ініцыятыву па перабудове сваіх дробных адсталых, малатаварных гаспадарак, у буйныя калектыўныя гаспадаркі.

Грунтоўнейшай задачай на далейшы час павінна зьявіцца ўсямернае ўзмацненьне працы па далейшым разгортваньні калектывізацыі. Сэсія знаходзіць, што сельсавет не павінен стаяць з боку гэтай вялізарнай працы ў справе пабудовы сацыялізму. Праца савету павінна быць накіравана на арганізацыю і больш поўнае абслугоўваньне насельніцтва калгасаў, на ператварэньне іх у базы перабудовы вёскі, у базу агракультурных, сацыяльна-бытавых мерапрыемстваў саветаў. Вось чаму неабходна ўсямерна ўзмацніць кіруючую ролю саветаў у адносінах да калгаснага будаўніцтва, неабходна павялічыць адказнасьць саветаў за калгаснае будаўніцтва, увёўшы ў сыстэму працы справаздачнасьць сельсаветаў перад шырокімі масамі працоўных за гэтую галіну працы. З другога боку і разам з тым патрэбна асьцерагацца дробнай апекі і адміністраваньня ў кіраўніцтве саветаў калгасамі.

Прыклад калектывізацыі Калініншчыны сьведчыць аб поўнай магчымасьці пашырэньня яшчэ большага павялічэньня тэмпаў калектывізацыі па ўсіх раёнах БССР. Цэнтральны Выканаўчы Камітэт зьвярнуў асаблівую ўвагу *усіх* Зямельных органаў на ўнясеньне рашучых зьмен у сваю працу. Зямельныя органы ў сапраўднасьці павінны зьяўляцца арганізатарамі буйнага сацыялістычнага землеробства, Камітэты Сялянскіх Т-ваў Узаемадапамогі яшчэ не перабудавалі сваёй працы ў напрамку актыўнага ўдзелу калектывізацыі сельскай гаспадаркі, вось чаму Выканаўчым Камітэтам і Саветам Сэсія даручыла ў далейшым уцягнуць Камітэты Сялянскай Узаемадапамогі да актыўнага ўдзелу ў калектывізацыі вёскі.

Шырока разгарнуўшаяся калектывізацыя сельскай гаспадаркі праходзіць і будзе праходзіць ва ўмовах абвостра-

най клясавай барацьбы ў вёсцы. Адначасова з узмацненьнем непасрэднае барацьбы супроць калектывізацыі ў форме забойстваў актыўных праваднічых у жыцьцё дырэктыў Партыі і Савецкай улады, у форме падпалаў, сыстэматычных патраў і шкодніцтва розных відаў, кулакі ўсё часьцей пераходзяць да скрытых але надзвычайна шкодных форм барацьбы супроць калгаснага будаўніцтва і іншых мерапрыемстваў Савецкай улады. Сустракаюцца выпадкі пралязаньня яўна шкодніцкіх элемэнтаў нават у кіруючыя органы па арганізацыі калгасаў. Патрэбна ў зьвязку з гэтым асабліва вялікая ўвага і рашучыя захады да зьнішчэньня гэтых праяў. Навакол калектывізацыі сельскай гаспадаркі Сэсіяй ЦВК завострана ўвага і ў напрамку забясьпечаньня яе адпаведнымі навукова-тэхнічнымі кадрамі.

Пытаньням бюджэтнага парадку аддадзена таксама належная ўвага другой Сэсіяй ЦВК. Знойдзена, што бюджэт БССР на 1929-30 год складзен у поўнай адпаведнасьці з тымі задачамі, якія вызначаны Урадам БССР у зацьверджаным 5-цігадовым пляне разьвіцьця народнае гаспадаркі і культуры. У бюджэце знайшлі яскравы адбітак моманты, якія характарызуюць сучасны этап сацыялістычнага будаўніцтва, як уздым вытворчага энтузіязму рабочае клясы праз разгортваньне сацыялістычнага спаборніцтва, шырокі рух бядняцка-серадняцкіх мас вёскі да калектывізацыі, увядзеньне бесьперапыннае працы, што забясьпечвае павялічэньне прынятых раней тэмпаў, пашырэньне заданьняў і г. д.

У бюджэце на 1929-30 год выразна праведзены клясавы прынцып ападаткаваньня ў горадзе і ў вёсцы, прадугледжана поўнае вызваленьне ад падатку беднаты, палёгкі ў ападаткаваньні сераднякоў, больш дасканальнае правядзеньне індывідуальнага абкладаньня і г. д.

У бюджэце знаходзіць яскравы адбітак зьмяншэньня ролі прыватнага сэктару ў народнай гаспадарцы—удзельная яго вага зьмяншаецца.

Выдатковая частка дзяржаўнага бюджэту на 1929-30 год накіравана цалкам на выкананьне грунтоўнейшых задач бягучага году: павялічэньне тэмпу індустрыялізацыі народнае гаспадаркі, паглыбленьне і пашырэньне працэсу сельскай гаспадаркі і яе машынізацыі, уздым культурнага ўзроўню працоўных БССР і г. д.

На падставе выкананьня дзяржаўнага бюджэту за 1927-28 год Сэсія ЦВК мела магчымасьць выявіць і падлічыць усе недахопы складаньня і выкананьня бюджэту і прыняла ўсе перасьцярогі для непаўтарэньня іх у далейшым.

Вельмі значнае месца ў працы Сэсіі ЦВК заняло таксама пытаньне рэарганізацыі Віцебскай акругі ў вопытна-паказальную. ЦВК заслухаў пакуль што першапачатковыя вынікі рэарганізацыі. Ад гэтай спробы чакаецца шмат новых, цікавых і вельмі важных форм і мэтадаў працы, якія неабходна здабыць дзеля наданьня больш шпаркіх тэмпаў справе сацыялістычнага будаўніцтва.

Ад усяго нашага дзяржаўнага апарату патрабуецца поўная клясавая выразнасьць і гібкасьць, ён павінен куды больш поўна чым зараз ажыцьцяўляць волю працоўных. Зараз яшчэ нярэдкія выпадкі бюракратызму, цяганіны, нячуласьці да законных запатрабаваньняў рабочага, батрака, селяніна-бедняка і серадняка і г. д.

Патрэбны больш рашучыя меры па ўцягненьні сьвежых пралетарскіх кадраў у кіруючы дзяржапарат, каб зьнішчыць гэтую спадчыну былога царызму і здабыць больш дасканалыя спосабы вырашэньня задач, пастаўленых нашай камуністычнай партыяй і савецкай уладай.

Рэарганізацыя Віцебшчыны і зьяўляецца шырока пастаўленым у гэтым напрамку вопытам.

Пастановай ЦВК, прынятай на 2-й Сэсіі па гэтым пытаньні, усе цэнтральныя ўстановы абавязваюцца прыняць больш рашучыя захады, чым гэта рабілася з самага пачатку гэтага вопыту, да забясьпечаньня ўздыму творчай ініцыятывы працоўных мас па далейшым палепшаньні сыстэмы і мэтадаў працы ўсяго савецкага апарату, умацаваньні і палепшаньні кіраўніцтва, больш рацыянальнай пастаноўцы працы ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва.

Вядома, што разгортваньнем сацыялістычнага будаўніцтва і зьвязаным з ім

абвастрэньнем клясавае барацьбы вымагаецца асаблівая сьвядомасьць і выразнасьць у працы ўсяго савецкага апарату, як у справе ажыцьцяўленьня клясавай лініі, гэтак і ў сэнсе сваячасовага вырашэньня практычных задач сацыялістычнага будаўніцтва. А тымчасам адмоўныя моманты, як бюрократызм, грубыя адносіны да працоўных, шкодніцтва і г. д. — яшчэ часты няпрошаны госьць у нашым апараце.

Выходзячы з гэтых акалічнасьцяй, Сэсія заслухала даклад РСІ пра чыстку савецкага апарату. ЦВК ухваліў усе зробленыя захады да вызваленьня савецкага апарату ад сацыяльна-шкодных элемэнтаў, якія скрыўляюць лінію партыі і савецкае ўлады, ад элемэнтаў разлажыўшыхся, ад растратчыкаў, хабарнікаў і шкоднікаў усіх відаў і гатункаў.

ЦВК лічыць недастатковым праз чыстку толькі пазбавіць савецкі апарат ад гэтакіх элемэнтаў, пры дапамозе чысткі мы павінны атрымаць праверку, палепшаньне і ўмацаваньне дзейнасьці і здольнасьці апарату вырашаць надзвычайна важныя задачы сацыялістычнага будаўніцтва, якія перад ім стаяць. Вызваляючы савецкі апарат ад усяго непатрэбнага, ЦВК даручыў РСІ і іншым савецкім органам падрыхтаваць замену вычышчаемых, за кошт новых кадраў вылучэнцаў з рабочых, батракоў, беднякоў і лепшай часткі серадняков, як мужчын, гэтак і жанчын. Гэта важнейшая справа ў савецкім будаўніцтве можа быць вырашана толькі пры ўмовах актыўнага і найшырэйшага ўдзелу ў ёй працоўных мас БССР.

ЦВК на гэтай сэсіі абмеркаваў пытаньне аб арганізацыі Саюзнага Наркамзему і ўхваліў гэтакі арганізаваць. Сваё рашэньне ЦВК грунтаваў на тым, што значныя посьпехі ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі БССР маюцца дзякуючы дапамозе з боку Саюзу ССР, гэтую дапамогу мае і сельская гаспадарка. Зараз у момант рашучай калектывізацыі адчуваецца асаблівая неабходнасьць як у дапамозе нашай сельскай гаспадарцы, гэтак і ва ўзмоцненым кіраваньні ёю. Больш цесная сувязь з Саюзнымі органамі забясьпечвае гэтыя моманты.

ЦВК заслухаў, нарэшце, інфармацыю Ураду пра арганізацыю Ўсебеларускай выстаўкі сельскай гаспадаркі і прамысловасьці. Першая выстаўка сельскай гаспадаркі і прамысловасьці павінна адлюстраваць барацьбу рабочых, бядняцка-серадняцкіх мас сялянства і наогул працоўных мас усіх нацыянальнасьцяй Савецкай Беларусі пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі за сваё вызваленьне ад улады капіталістых і абшарнікаў у сваёй краіне і залежнасьці ад капіталістычных краін Захаду. Выстаўка наглядна пакажа здабытыя за 11 год упартай працы і змаганьня, нашыя дасягненьні ва ўсіх галінах народнае гаспадаркі. Выстаўка яшчэ больш наглядна ўпэўніць рабочага і селяніна, работніцу і сялянку ў здольнасьці іх пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі і савецкае ўлады будаваць і пабудаваць сацыялізм.

Усе зазначаныя пытаньні разам з зацьверджанымі Сэсіяй законамі, якія прыняты Ўрадам БССР паміж 1-й і 2-й Сэсіяй, патрабуюць асабліва моцнай увагі ўсіх працоўных БССР у справе няўхільнага ажыцьцяўленьня прынятых ЦВК пастаноў.

Ажыцьцяўленьне гэтых пастаноў—новы крок да сацыялізму.

**А. Сташэўскі.**

# Сельсаветы павінны перабудаваць сваю працу.

## 1. Шпаркае будаўніцтва сацыялізму па ўсім Саюзе ССР.

Пасьля XVI Усесаюзнай партканфэрэнцыі і V Ўсесаюзнага Зьезду Саветаў прайшоў ужо амаль год. Уся наша савецкая краіна напружана, з усёй сілай, працуе над тым, каб выканаць той грандыёзны пяцігадовы плян, які павінен даць нам магчымасьць дагнаць і перагнаць капіталістычныя краіны. Першы год пяцігодкі паказаў, што мы пасьпяхова праводзім гэту задачу ў жыцьцё.

Нячуваным тэмпам расьце лік буйных калектываў. З вялікім уздымам праведзены, асабліва ў вясну, мерапрыемствы па падвышэньню ўраджайнасьці (аграмінімум).

У гарадох шырока разгарнулася сацыялістычнае спаборніцтва на заводах, фабрыках і па ўстановах.

750 мільённая III пазыка індустрыялізацыі рэалізавана ў 1½ месяцы.

Праводзяцца дні індустрыялізацыі ў гарадох і калектывізацыі на вёсцы, арганізуюцца чырвоныя абозы. Працоўныя гораду і вёскі дапамагаюць больш хутка і пасьпяхова праводзіць пяцігадовы плян у жыцьцё.

Перабудоўваецца ўвесь быт. Бесьперапынны рабочы тыдзень, новы каляндар, машынізацыя і каляктыўная работа на вёсцы, усё большы адыход ад рэлігіі—усё гэта шпарка адсоўвае нас ад той старой гнілі, ад тых старых форм жыцьця, якія вякамі гібелі над працоўнымі масамі.

## 2. Сельсаветы не разварушыліся.

У гэтай вялізарнай працы, якая разгорнута і яшчэ разгортваецца, больш удзелу павінны прыняць кожны працоўны, кожны савецкі орган. І тут трэба прызнаць, што маюцца яшчэ органы, якія недастаткова ўдзельнічаюць у гэтай працы.

Гэтымі органамі зьяўляюцца многія сельсаветы.

Вытваранае нядаўна інструктарамі ЦВК і камісіямі АВК абсьледваньне шэрагу с.-саветаў з боку правядзеньня імі клясавай лініі выявіла, што большасьць с.-саветаў працуюць яшчэ па „старынцы“.

## 3. Сельсаветы і калектывізацыя.

Першы і галоўны недахоп у працы сельсаветаў—гэта тое, што яны не перабудавалі сваёй працы ў напрамку калектывізацыі вёскі.

Амаль ніводным з абгледжаных с.-саветаў ня было пастаўлена на прэзыдыуме, альбо пленуме пытаньне аб канкрэтных мерапрыемствах па арганізацыі калгасаў, альбо па пашырэньні ўжо арганізаваных. Таксама ня ставіліся даклады аб працы існуючых калгасаў і аб мерапрыемствах па палепшаньні іх працы. Нават у тых сельсаветах, дзе пераходзяць на суцэльную калектывізацыю, гэта ня было зроблена. Напрыклад, Пуцімльскі с.-савет, Магілеўскай акругі, у якім калектывізавана уж 70 проц. усіх гаспадарак, ня ставіў пытаньня аб працы калгасаў на прэзыдыуме альбо пленуме. А гэты сельсавет зьяўляецца адным з лепшых па калектывізацыі.

У іншых сельсаветах справа абстаіць яшчэ горш. Напрыклад, Мастоцкі, Таранаўскі, Кіселя-Будзянскі с.-саветы Магіл. акр. ня толькі не садзейнічаюць працы па калектывізацыі, але амаль што перашкаджаюць ёй. Прыкладна, у нядзелю, калі па прапанове РВК трэба было праводзіць сходы ў дзень калектывізацыі, старшыні Мастоцкага с.-савету патрабавалася чамусьці ехаць у горад, сакратару таксама і, такім чынам, дзень каляктывізацыі ня быў праведзены.

У Таранаўскім с.-савеце і старшыня і сакратар заяўляюць, што яны першыя ідуць у калгас, а на справе перашкаджаюць калектывізацыі, трымаюць сувязь з заможнікамі.

У шмат якіх сельсаветах, і амаль ва усіх раёнах, маюцца ўзорныя калгасы, якія могуць быць прыкладам сялянству

і паказальнікамі значэньня буйной калгаснай гаспадаркі, але праца гэтых калгасаў не папулярызавана. Сяляне мала ведаюць, як яны працуюць і як калгасьнікі жывуць, а гэта дае магчымасьць кулацкім элемэнтам распаўсюджваць розныя чуткі аб іх сярод сялян. Між тым пастаноўкай дакладаў калгасаў на сходах сялян, арганізацыяй дэлегацый сялян для наведваньня калгасаў, сельсаветы маглі-б у значнай ступені ўзмацніць калектывізацыю і разьбіць усе кулацкія манэўры.

Зусім адсутнічае у с.-с. плянавасьць і яскравая арыентыроўка ў працы. Умовы розных с.-саветаў—розныя. У адных, дзе маецца шмат лугоў, зьяўляецца мэтазгодным арганізацыя жывёлаводчых калектываў, у другіх—поўныя калетывы, у трэціх, асабліва—суцэльна хутарскіх, часам маецца сэнс паставіць пытаньне аб арганізацыі машынных станцый. Апроч таго, у кожным с.-савеце маюцца паасобныя вёскі, ужо больш-менш падрыхтаваныя да арганізацыі калектыву, а другія яшчэ слаба падрыхтаваны. У той час, як у аднэй вёсцы можна прыступіць ужо да арганізацыйнай працы (запіс жадаючых уступіць, высьвятленьне плошчы будучых калгасаў) у другіх—трэба рабіць націск на растлумачальную працу. Сельсавет павінен адпаведна з гэтым разьмяркоўваць свае сілы, час і работу.

Вельмі мала с.-с. удзялілі ўвагі падрыхтоўцы да калектывізацыі самаго актыву с-с. Яшчэ бываюць выпадкі, калі некаторыя члены с.-с. зьяўляюцца актыўнымі праціўнікамі калектывізацыі, змагаюцца супроць яе. У Сухароўскім с.-с., напрыклад, 2 члены с.-сав. у вёсцы Сафійск былі зачыншчыкамі кампаніі супроць арганізуючагася калгасу. С.-сав. павінны былі паставіць пытаньне ў сябе і перад выбаршчыкамі, ці можа грамадзянін, які вядзе актыўную барацьбу супроць дырэктыў Зьездаў Саветаў, супроць палітыкі савецкай улады быць членам кіруючага савецкага органу, якім зьяўляецца с.-савет. Але ня толькі паасобныя члены, і камісіі с.-с. далёка ня ўсюды мабілізаваны для гэтай працы. Аб гэтым павінны сур'ёзна задумацца работнікі на мясцох.

## 4. Больш зацікаўленасьці працай у первястковых т-вах.

Праца па арганізацыі калгасаў не павінна паслабляць увагі да працы первястковых т-ваў. Па-першае, таму што у паасобных с.-с., дзе калектывізацыя яшчэ слабая, яны могуць зьявіцца пераходнай ступеньню да калектыву, па-другое, таму, што яны даюць магчымасьць арганізаваць бядняцтва і вызваліць яго ад кулацкага ўплыву, і па-трэцяе, таму, што кулакі нярэдка выкарыстоўваюць іх у сваіх мэтах. Прыкладаў апошняму нямала. У Махоўскім, напр., с.-с. Лупалаўскага раёну ў праўленьні малочнага таварыства заселі былі абшарнік і адзін індывідуальна-абкладзены, і толькі адзін бядняк ёсьць у праўленьні для віду. А пагэтаму праўленьне глядзіць скрозь пальцы, як заможныя прадаюць малако на прыватны рынак, хаця ільготамі т-ва (зьніжэньне падатку, атрыманьне інтэнсыўных кармоў і г. д.) яны карыстаюцца.

У Таранаўскім с.-с. 98 проц. машын (малацілак і інш.) знаходзіцца ў руках заможных і кулакоў, якія бяруць з бедняка і серадняка па 5—7 руб. за дзень абмалоту. Між тым, ні старшыня, ні сакратар, быўшыя—першы членам праўленьня, другі—членам рэвкамісіі крэдытнага т-ва, не задумаліся нават аб арганізацыі машынных т-ваў.

С.-саветы павінны сур'ёзна заняцца пытаньнем арганізацыі (там, дзе няма яшчэ глебы для калектыву) первястковых т-ваў, а там, дзе яны маюцца, перавесьці іх на больш складаныя формы. Яны павінны таксама больш уважліва прыглядацца да складу праўленьняў т-ваў і да іх работы, да таго, як яны у ёй праводзяць клясавую лінію.

## 5. Клясавая лінія с.-савету павінна стаць больш выразнай.

Ня гледзячы на значнае палепшаньне падатковай палітыкі на мясцох, нельга сказаць, каб ва усіх с.-саветах была дастатковая выразнасьць у гэтай працы. Такія зьявішчы, як нясысканьне ў Кіселя-Будзянскім с.-савеце 48 проц., у Юркавіцкім с.-савеце, Жіткавіцкага раёну 130 р. самаабкладаньня, пераважна з заможных, у той час, як на беднякоў і

сераднякоў складаліся пратаколы, альбо такія зьявішчы, як зьнікненьне ў некаторых с.-с. з клясіфыкацыі маемаснага становішча групы заможных—усё гэта сьведчыць аб тым, што ў паасобных с.-саветах яшчэ наглядаецца нежаданьне сварыцца, імкненьне жыць ладна нават з кулакамі. У сувязі з гэтым у рабоце с.-с. досыць часты і моманты недаабкладаньня гаспадарак. Напрыклад, у тым жа Кіселя-Будзянскім с.-сав. (Клімавіцкага раёну) селянін, які мае 63 дз. зямлі, 3 коняй і 5 кароў, адносіцца да групы сераднякоў. У другіх с.-сав. Клімавіцкага раёну зусім ня прыняты пад увагу моманты гандлю хлебам, дачы хлеба пад адработак і г. д.

## 6. Больш увагі разьмеркаваньню крэдытаў і машын.

У справе будаўніцтва калгасаў, первястковых таварыстваў і ў справе ўздыму бядняцкіх гаспадарак, агромністую ролю мае крэдыт.

Ці вядома с.-с. тое, як яны разьмяркоўваюцца?

З абсьледваных 15 с.-с. у Магілеўскай, Гомельскай і Мазырскай акругах толькі адзін, Сухароўскі с.-с. Лупалаўскага р-ну, меў зьвесткі аб гэтым і то таму, што крэдытнае т-ва знаходзіцца на месцы. Іншыя с.-саветы ведаюць толькі тое, што яны даюць даведкі, ды і то аб гэтым ведаюць толькі старшыня, альбо сакратар с.-сав., якія гэтыя даведкі даюць самі, без ўзгадненьня з прэзыдымам. Адсюль тое, што ў Таранаўскім с.-савеце, Лупалаўскага раёну, атрымалі крэдыт 6 індывідуальна - абкладзеных гаспадарак, што ў Галіцка-Мыскім с. с. крэдытуецца т-ва, у якім няма амаль беднякоў, што машыны пападаюць на 98 проц. (Таранаўскі с.-с.) да заможных.

С.-саветы павінны ўстанавіць сыстэматычную сувязь з крэдытнымі таварыств., атрымоўваць ад іх зьвесткі аб атрыманьні крэдыту па с.-с. і правяраць правільнасьць разьмеркаваньня крэдытаў праз прэзыдыумы, праз групы альбо сходы беднаты.

Райвыканкомам неабходна прыняць захады да таго, каб крэдытныя т-вы не радзей 1 разу ў тры месяцы пасылалі у с.-с. сьпісы гр-н данага с.-с., атрымаўшых крэдыт альбо машыны.

Нарэшце, с.-саветы павінны значна больш заняцца вывучэньнем пытаньня аб тым, як выкарыстоўваецца крэдыт і якія вынікі ён дае ў гаспадарцы.

## 7. Работа сярод батрацтва кульгае.

Хаця ва ўсіх амаль с.-саветах маюцца сьпісы батракоў, усё-ж трэба прызнаць работу с-саветаў сярод апошніх недастатковай. У лік батракоў уваходзяць нярэдка і такія пастухі, у якіх батрацтва зьяўляецца пабочным прыработкам і ў бацькоў якіх маюцца даволі моцныя гаспадаркі. З другога боку, няма вучоту такіх батракоў, у якіх батрацтва зьяўляецца асноўным сродкам да існаваньня. Недастаткова с.-с. правяраюць выкананьне дагавораў і зьмест апошніх. Нарэшце, надзвычайна слаба культурна-масавая работа сярод батракоў, у прыватнасьці, уцягненьне іх у склад с.-с., яго камісій і ў грамадзкія арганізацыі.

## 8. У культурнай рабоце с.-с. клясавая лінія слаба праводзіцца.

С.-саветы заслухоўваюць даклады аб рабоце школ даволі часта. Аднак, нельга сказаць, што якасьць кіраўніцтва школай, асабліва з клясавага боку, здавальняючая. Мала ўдзелена ўвагі ўцягненьню ў школы батракоў і беднякоў. Большасьць с.-с. лічылі, што яны ў гэтым напрамку ўсё зрабілі, калі пасылалі ў прыймовую камісію свайго прадстаўніка, альбо, калі „беднякам не адмаўлялі ў прыёме“. Між тым, у задачу с.-савету ўваходзіць—разгарнуць перад укамплектаваньнем школ шырокую кампанію сярод беднаты па пасылцы іх дзяцей у школу. А гэта нідзе амаль не рабілася.

Мала ўдзяляецца с.-сав. увагі замацаваньню батракоў і дзяцей беднякоў у школах. Гэта бачна па характару адсеву дзяцей. У пяці з абсьледваных школ у с.-с. было дзяцей: батракоў—5,1 проц., беднякоў—32,9 проц., серадняков—56,3 проц., заможных—5,7 проц.

Сярод-жа адсеяўшыхся ў гэтых школах мы маем: батракоў—17,1 проц., беднякоў—53 проц., серадняков—29,9 проц. і ніводнага заможнага. У сувязі з гэтым вельмі малы процант сканчваючых школы беднякоў і батракоў.

С.-саветы павінны зацікавіцца прычынай адсеву бядняцка-батрацкіх дзяцей з школ і прыняць меры да паслабленьня яго, арганізуючы дапамогу дзецям праз КСУ, каапэрацыю і інш. грамадзкія арганізацыі.

### 9. Толькі прыцягнуўшы увесь актыў, с.-с. справіцца з работай.

Ці можа с.-савет справіцца з тымі задачамі, якія на яго ўскладаюцца?

Бязумоўна—калі ён зможа прыцягнуць да сваёй працы ўвесь актыў.

Лік актывістых у кожным с.-савеце расьце з кожным годам.

Гэта бачна з таго, як усё больш ажыўлена праходзяць пленумы с.-с.

Практычны вопыт на мясцох таксама расьце. Гэты вопыт, гэты актыў трэба ўмець скарыстоўваць. А зрабіць гэта магчыма рознымі шляхамі.

Асноўную ролю павінны тут адыграць камісіі с.-с.

Трэба прызнаць, што гэта мейсца найбольш слабае ў рабоце с.-с. Шэраг камісій зусім не працуе. У Махоўскім с.-с., Лупалаўскага раёну, не працавала з часу перавыбараў с.-с. ніводная камісія. Яны ня былі нават аформлены. У камісіях за рэдкімі выключэньнямі няма плянаў работы. Часта камісіі проста ня ведаюць, што і як ім рабіць. Апублікаваны ў мінулым нумары „Саветаў Беларусі“ прыкладны плян работы с.-с. і яго камісій павінен унесьці яснасьць у работу камісій. Апошнія павінны сыстэматычна прапрацоўваць пытаньні да прэзыдыуму і пленуму с.-с. і дапамагаць яму ў правядзеньні намечаных ім мерапрыемстваў.

Больш увагі с.-с. павінны ўдзяляць інстытуту аграўпаўнаважаных. Апошнія павінны зрабіцца сапраўднымі арганізатарамі новага каляктыўнага земляробства. С.-с. павінны забясьпечыць іх аб‘яднаньнем у сельска-гаспадарчыя гурткі на зімовы час, арганізацыяй экскурсій у паказальныя калгасы, падняцьце іх культурнага ўзроўню.

Актыў жанчын недастаткова ўлічваецца ў рабоце с.-саветаў. Між тым роля апошніх ва ўсёй рабоце, а ў асаблівасьці, пры пераходзе да калектыўных форм, аграмадная.

Нарэшце, мабілізацыя ўсяе масы сялянства шляхам арганізацыі спаборніцтва вёсак недастаткова праводзіцца с.-с. Дзе-ні-дзе, у прыватнасьці у Мазырскай акрузе, гэта справа пачата, але с.-с. ня змаглі распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы, разьмеркаваць заданьні па дварох і спаборніцтва ва многіх мясцох зрабілася бязьзьместнай дэклярацыяй.

Актыўнасьці ў вёсцы сабралося шмат. Вёска імкнецца і ідзе да новага жыцьця. Задача с.-с.—стаць кіраўнікамі і арганізатарамі гэтага руху.

**А. В.**

# Скрыўленьне сельсаветамі клясавае лініі на практыцы.

(*Быхаўскі раён, Магілеўскай акр.*).

### Калектывізацыяй сельсаветы ня кіруюць.

Большасьць сельсаветаў вельмі мала займалася рэарганізацыяй сельскае гаспадаркі, асабліва калектывізацыяй. У выніку чаго—па шэрагу сельсаветаў (Грудзінаўскі, Тайманаўскі і інш.) да гэтага часу няма аніводнага калгасу.

Па існуючых калектывах і прасьцейшых с.-г. аб‘яднаньнях зусім мала адчуваецца кіраўніцтва сельсаветаў, а з боку некаторых з іх яно зусім адсутнічае, дзякуючы чаму маецца шмат выпадкаў, калі раскідаюцца як калгасы, так і іншыя с.-г. вытворчыя аб‘яднаньні: у Н.-Быхаўскім с. савеце, дзякуючы адсутнасьці кіраўніцтва з боку сельсавету, распаўся арганізаваны ў 1928 годзе калгас „Верны Труд“, у Тайманаўскім сельсавеце адзін калгас таксама распаўся.

Пры арганізацыі калгасаў і інш. с/г. аб‘яднаньняў сельсаветамі надзвычайна мала зварочвалася ўвагі на сацыяльны падбор членаў калгасаў і прасьцейшых с.-г. аб‘яднаньняў. Маецца шэраг выпад-

каў, калі ў калгасы пападалі кулакі, „лішэнцы“ і заможнікі, якія праводзілі сярод астатніх членаў калгасаў разлагаючую працу. Напрыклад: у камуну „Пралетарская Рэспубліка“ Н. Быхаўскага с/савету прыняты настаўнік *Шутаў*—кулак, абкладзены ў індывідуальным парадку; Гарадзецкім с/саветам у камуну „Перамога“ прыняты два кулакі—„індывідуальнікі“, з якіх адзін плоціць падатку 258 р., а другі—181 р.; Грудзінская малочная арцель у большасьці складаецца з заможных; у калгасе ім. Вайнштэйна меліся гандляры „лішэнцы“.

Вучот мерапрыемстваў, якія праводзяцца ў галіне інтэнсіфікацыі сельскае гаспадаркі, па ўсіх сельсаветах адсутнічае. Адгэтуль—сельсаветы ня маюць магчымасьці кіраваць правільна сельскай гаспадаркай у напрамку перабудовы яе на сацыялістычны лад, асабліва адсутнічае вучот правядзеньня агрыкультурных мерапрыемстваў і вынікаў павялічэньня ўраджайнасьці.

## Кулаку крэдыт у першую чаргу.

Сельсаветы нават і ня думалі заводзіць вучоту гаспадарак, якія крэдытуюцца.

Ім, бачна, было непатрэбна устанаўляць сувязь з крэдытнай каапэрацыяй; гэтая сувязь амаль нідзе і ня трымаецца.

У выніку гэтага шэраг сельсаветаў ня даглядзелі, як у іх пад носам крэдыты, якія адпушчаюцца бядняцка-серадняцкім масам сялянства, плылі ў рукі папом і кулаком.

Вось характэрныя прыклады: Грудзінаўская крэдытная каапэрацыя выдала: кулаком і заможнікам больш 13% крэдыту, беднаце — 41% і серадняком—42%, прычым заяў беднаты на крэдыт было задаволена ўсяго 69%, а кулакоў—84%. Сярэдні разьмер пазыкі: бедняку 70 руб., серадняку—75, а кулаку—103 руб. Апрача гэтага, крэдытам карыстаўся і поп, які на працягу некалькіх гадоў атрымаў да 700 руб. На гэты час за заможнікамі лічыцца запазычанасьць па крэдыту на 478 руб. і за служачымі—450 руб. Былі і такія выпадкі, калі выдаваемыя крэдыты не скарыстоўваліся па належнасьці; у Грудзінаўскім сельсавеце селянін Межунц атрымаў 75 руб. на куплю каня і скарыстаў на вясельле, а селянін Мяжвед—атрымаў 50 руб. і прапіў. Бывалі выпадкі, калі за фонд беднаты каапэравалі серадтякоў і заможнікаў.

## Лес выдаваўся абы каму.

Сувязь с/саветаў (у пераважнай большасьці) з лясной вартай і лясьніцтвамі па ахове лясной гаспадаркі, як дзяржаўнай, гэтак і мясцовага значэньня ня было. Маецца шмат упаўнаважаных лясоў мясцовага значэньня, якія зусім не адпавядаюць рабоце; адгэтуль—крадзеж лесу і г. д.

Разьмеркаваньне лесу, як будаўнічага, так і на паліва, рабілася з вялікім спазьненьнем і да гэтага часу лес поўнасьцю не скарыстаны. Мелася шмат выпадкаў, калі дарэмны лес выдаваўся абы як і каму папала.

Напрыклад, у Грудзінаўскім с/савеце кулакі „індывідуальнікі“ *Апрэляў і Зэлік* атрымалі лес і прадалі яго; у Н.-Быхаўскім с/савеце—*Шчарбакоў* атрымаў 15 пнеў; *Кавалёў*—12, і таксама прадалі; сельсаветы-ж на гэтыя зьявішчы зусім не рэагавалі.

## Збор падаткаў ішоў самацёкам.

У справе збору падаткаў с/саветы амаль ніякіх адміністрацыйных мер ня прымалі, дзякуючы чаму маецца шмат кулакоў—„індывідуальнікаў“, за якімі лічыцца яшчэ с.-гаспадарчы падатак. Нават за мінулы год у Грудзінаўскім с/савеце з 13 „індывідуальнікаў“ 9 гаспадарак, яшчэ лічуцца нядоімшчыкамі: у Гарадзецкім з 20—8 нядоімшчыкаў, у Глускім з 19—8 нядоімшчыкаў і г. д.

У некаторых с/саветах індывідуальнае абкладаньне не праведзена поўнасьцю. Маецца шмат неабкладзеных кулакоў. У Грудзінаўскім сельсавеце ў в. Рышкаўцы, кулак *Зелікаў*, які мае 10 дзесяцін пахаці, 5—лугу, 4 каровы, 3 кані, малатарку, веялку і іншы інвэнтар—індывідуальна не абкладзены. У Грудзінаўскім нацсавеце замест 8-мі гаспадарак, падлягаючых індывідуальнаму абкладаньню, абкладзена ўсяго толькі адна; у Н.-Быхаўскім с/с ня быў абкладзены кулак настаўнік—*Шутаў* і яго нават прыкры-

ваў член Райвыканкому—*Рудкоўскі*. Па шмат якіх с/саветах і да сёньняшняга дня ёсьць недавучот аб'ектаў абкладаньня.

### Тысячамі рублёў карыстаецца кулацтва.

Сумы, ня ўзысканыя ад самаабкладаньня мінулага году па с/саветах Быхаўскага раёну, надзвычайна вялікія. Нядоімкі на 15 кастрычніка г.г. па асобных с/саветах характарызуюцца наступнымі лічбамі: па Н.-Быхаўскаму с/савету—960 руб., Грудзінаўскаму — 1544 руб., Грудзінаўскаму нацсавету—2101 р. і па Тайманаўскаму—1081. Галоўная бяда тут яшчэ ў тым, што па Тайманаўскаму і Грудзінаўскаму с/саветах запазычанасьць у большасьці лічыцца за кулацкімі і заможнымі гаспадаркамі. Маюцца выпадкі, калі выдаткоўваньне сродкаў ад самаабкладаньня ідзе не па прызначэньню нават бяз ведама агульных сходаў.

Да правядзеньня самаабкладаньня на 1929-30 год с/саветы яшчэ не прыступілі.

### З 3-й пазыкай зусім дрэнна.

Праца па рэалізацыі 3-й пазыкі па с/саветах праводзіцца зусім слаба. Па Грудзінаўскаму с/савету распаўсюджана сярод сялянства пазыкі толькі на 300 руб., а аформлена на 35 руб., а Грудзінаўскі нацыянальны с/савет да гэтага часу не аформіў ані на рубель. Лёзунг партыі і ўраду „ў кожную хату аблігацыю 3-й пазыкі", калі зараз як сьлед за яго выкананьне ня ўзяцца,—выкананы ня будзе. Актыў с/саветаў у рэалізацыю пазыкі яшчэ ня ўцягнут, у выніку такое работы плян рэалізацыі 3-й пазыкі сярод сялян у Быхаўскім раёне выкананы на 1-е лістапада ўсяго толькі на 45%.

### Каапэрацыя засьмечана.

Спажывецкая каапэрацыя с/саветаў Быхаўшчыны, як і с.-гаспадарчая мае шмат хваробных зьявішч. Там наглядаюцца вялікая засьмечанасьць папамі, кулакамі і інш. чужымі элемэнтамі, растраты і сувязь з чужым элемэнтам. У складзе ўпаўнаважаных каапэрацыі маецца шмат заможнікаў і нават кулакоў. У адным т-ве бухгальтарам служыць сын папа, які камісіяй па чыстцы савецкага апарату вычышчан, але і да гэтага часу працягвае працаваць.

Перавыбары спажывецкае каапэрацыі прайшлі нездавальняюча. Кулацкая групіроўка ня дала магчымасьці склікаць сходаў беднаты, нават былі выпадкі, калі кулакі імкнуліся разагнаць гэтыя сходы беднаты, а ў аднэй з крам, будучы членам праўленьня, поп прыходзіў у краму за прылавак і разьмяркоўваў тавары сярод пайнікаў. Дэфіцытныя тавары выдаваліся каму папала,—як папала, яны часта разьмяркоўваліся сярод заможнікаў і кулакоў (Н.-Быхаўская каапэрацыя і Грудзінаўская, напрыклад, жонка кулака *Мазалеўскага* атрымала цэлы скрутак не расьпячатванага мадэпалану і інш. мануфактуры). А колькі такіх выпадкаў на Быхаўшчыне, так і не пералічыць.

**А. К. Сянькевіч.**

## Кулакі за плячыма сельсаветаў у Самахвалавіцкім раёне.

Ня гледзячы на цьвёрдыя дырэктывы партыі і Ураду аб наступе на кулацкія элемэнты ў вёсцы і сваячасовую сыгналізацыю друку аб момантах скрыўленьня клясавае лініі ў практычнай рабоце, момантаў скрыўленьня клясавае лініі асобнымі працаўнікамі ў працы Самахвалавіцкага р-ну, маецца яшчэ шмат. З агульнага ліку гаспадарак у раёне—883 альбо 9,26 проц. плацяць падатак з працантнай набаўкай; з гэтага ліку толькі 328 гаспадарак абкладзена індывідуальна, што раўняецца 3,57 проц. Гэта тлумачыцца тым, што раённыя працаўнікі падыйшлі да гэтае справы фармальна, давяраючы ўсю справу с.-с, якія ў значнай частцы ўкрывалі кулацкія гаспадаркі. Калі разглядзець становішча гаспадарак, якія плацяць падатак з працантнай набаўкай, то ясна відаць

будзе шэраг парушэньняў клясавае лініі. Падамо некалькі фактаў: Рубілкаўскі с-с. па маемасным становішчы зьяўляецца адным з кулацкіх с.-саветаў, у якім абкладзена ў індывідуальным парадку 87 гаспадарак. 2-га лістапада, калі пры прадстаўніку РВК на прэзыдыуме с.-с. стаяла пытаньне аб дадатковым выяўленьні кулацкіх гаспадарак сябра с.-с. Вераб'ёва, яна-ж і сябра РВК, гаворыць: „калі гаспадар і жыве добра і наймае батрака, то мы індывідуальна абкладваць не павінны,—не павінны разбураць гаспадаркі". Старшыня-ж с.-сав. заявіў: „кулакоў няма і больш выявіць немагчыма", адмовіўшыся абгаварваць гэтае пытаньне на прэзыдыуме.

## Каго-ж Рубілкаўскі сельсавет лічыць „беднатою".

На хут. Дзежская маюцца дзьве гаспадаркі—з якіх адна, у якой налічваецца 20,5 дзес. зямлі, 6 кароў, 3 коняй, і даходнасьць ад гаспадаркі выражаецца ў 1.097 руб.; у другой гаспадарцы налічваецца 15,5 дзес. зямлі, 4 коняй, 6 кароў, даходнасьць 874 руб. Абедзьве гаспадаркі фіктыўна падзелены і маюць па 2 батракі, акрамя гэтага наймаюць і сэзоньнікаў. Грыб Сымон з хут. Ракаедаўшчына мае 13 гект. зямлі, даходнасьць больш 700 руб. і ў едакі прыпісана 5 душ сям'і брата, які працуе ў Самахвалавіцкай 7-мігодцы—такім чынам, гаспадарка залічана ў шматядоцкую і карыстаецца ільготаю, у той час як брат з сям'ёй жыве ў Самахвалавічах. Гаспадарка карыстаецца наёмнаю сілаю і не абкладзена індывідуальна.

Гаспадарка Ліпніўскіх з хут. Кулакоўцаў налічвае 19 дзес. зямлі, 3 коняй і 6 кароў.

Самасейка В. П. з вёскі Дзежак мае 23 дз. зямлі, 3 коняй, 4 каровы, даход гаспадаркі 1145 руб. і плаціць дадатак у звычайным парадку 186 р. Такіх гаспадарак па с.-с налічваецца да 40. Сельсавет гэтага бачыць ня хоча і сакратар с.-савету Шчасьлёнак (даходнасьць у гаспадарцы раўняецца 688 р.) карыстаецца наёмнаю сілаю і, бязумоўна, што яму няма ахвоты абгаворваць дадаткова кулакоў для індывідуальнага абкладаньня.

Ня лепш справа і ў Сеньніцкім с.-савеце, дзе працуе старшынёю Ланэўскі, былы партыец, якога выключылі з партыі за службу ў белай арміі. Ланэўскі цалкам і поўнасьцю падтрымоўвае кулацкія гаспадаркі і страціў зусім клясавае пачуцьцё. Гаспадарка Яцковых, у якой налічваецца 27 гект. зямлі, 4 коняй, 7 кароў,—была фіктыўна падзелена на 3 часткі і старшыня с.-савету, гэта ведаючы, маўчаў. Зараз гаспадарка злучана і налічана падатку 633 р. У вёсцы Шчытомірычы галоўную ролю граюць заможнік і кулак, а бедната загнана ў падпольле. Усе мерапрыемствы, як самаабкладаньне, хлебанарыхтоўкі і інш. кампаніі зрываюцца.

Калі бядняк гэтай-жа вёскі Валькoвіч актыўна выступіў на сходзе за правядзеньне хлебанарыхтовак, дык назаўтра ён быў забіты заможнікам Макарэвічам. Старшыня ніякіх мер ня прыняў. Самаабкладаньне мінулага году зусім ня выкарыстана, а гэта служыць лепшым залогам к зрыву самаабкладаньня ў гэтым годзе.

Заможніцкія і кулацкія гаспадаркі па с.-с. ня выяўлены і старшыня заяўляе, што „кулакоў няма". Такіх прыкладаў можна прывесьці шмат і па другіх с.-саветах.

Дрэнна абстаіць справа і ў крэдытнай каапэрацыі, як Самахвалавіцкай, так і Вузьлянскай, у якіх крэдытуюцца індывідуалы доўгатэрміновым крэдытам, а беднякам часта адмаўляюць. Бяднячка з вёскі Зар. Слабада Панкоўская — хадзіла разоў 15 у Самахвалаўскае крэдытнае т-ва і крэдыту не атрымала. Панкоўская летам пагарэла. Рэвізійнай-жа камісіяй выяўлен цэлы „букет" заможнікаў і кулакоў, якія карыстаюцца крэдытам.

Папы ў раёне карыстаюцца зямлёю (Гатава). Яны арандуюць землі (Вузьляны) і не абкладзены індывідуальна, ня гледзячы на пастанову РВК. Райпадатковая камісія выносіць пастанову адну, а бухгальтэрыя праводзіць зусім другое.

Паўстае пытаньне: дзе-ж лёзунг партыі і ўраду аб правядзеньні выразнай клясавай лініі і наступленьні на кулака? Гэты лёзунг застаецца на паперы. Трэба абвясьціць суровую барацьбу усім тым, хто ідзе на ўступкі кулаку, хто праводзіць у практычнай рабоце правы ўхіл. Чыстка савецкага апарату і зоркае пралетарскае пачуцьцё павінны даць рашучы адпор усім праявам правага ўхілу. **П. Л.**

# II Ўсебеларускі Зьезд рабочых і сялян латышоў.

З 24 па 28 лістапада адбыўся Другі Ўсебеларускі Зьезд рабочых і сялян— латышоў, у працы якога ўдзельнічала 10 дэлегаты.

Зьезд адбываўся ў час вялікага напружаньня і рашучых перамог на фронце сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне, у час жорсткай клясавай барацьбы, якая разгарнулася ў сувязі з нашым сацыялістычным будаўніцтвам

Гэтая клясавая барацьба знайшла свой адбітак і сярод латыскага насельніцтва, у прыватнасьці, яна выявілася пры падрыхтоўцы да зьезду і на самым зьезьдзе. На вёсцы ў падрыхтоўчай рабоце барацьба ішла навакол клясавага складу дэлегатаў. Кулацтва імкнулася правесьці сваіх людзей і рашуча зьмагалася супроць батрацкіх і бядняцкіх кандыдатур, „бо яны зьвернуцца са Зьезду з плянамі калектывізацыі і нам ня будзе пасьля таго жыцьця“ (Сураскі раён).

Але тыя іх спробы посьпеху ня мелі. Падбор сацыяльнага складу дэлегатаў зьезду бясьпечыў поўную магчымасьць правядзеньня на зьезьдзе клясавае лініі: значную частку дэлегатаў зьезду складалі рабочыя—27%; асобныя групы сялянства складалі на зьезьдзе: батракі і бедняк—%, калгасьнікі—21% і серадзнякі—22

На зьезьдзе была яшчэ больш замацавана сувязь батрацтва і беднаты з серадняком супроць кулака.

Адзначаны, што рабочая частка зьезду складалася з лепшых перадавых рабочых, нельга аднак прайці міма таго, што да апошняга часу мы мелі яшчэ слабы ўдзел рабочых-латышоў у рабоце на вёсцы наогул і ў падрыхтоўчай рабоце да зьезду асабліва. Кіраўнічая роля рабочай клясы ў латыскай вёсцы недастатковая, дзякуючы чаму на зьезд папала нейкая частка заможнікаў — 4% з Віцебскай, Аршанскай і Гомельскай акруг, дзе ня толькі рабочыя гораду, але і нацкамісіі не прымалі адпаведнага ўдзелу ў падрыхтоўчай рабоце да зьезду.

Работа зьезду мела вялізарнае палітычнае і практычнае значэньне ў пытаньнях пасьпяховага вырашэньня нацпалітыкі нашай партыі і калектывізацыі вёскі.

З пытаньняў гаспадарчых, палітычных і культурных, якія абгаварваліся на зьезьдзе, галоўную ролю набывае пытаньне калектывізацыі латыскай вёскі. Навокал гэтага пытаньня ў апошні год там галоўным чынам разгортваецца клясавая барацьба. Кулацтва супольна з духавенствам і сэктанцтвам, уплываючы на заможных серадзнякоў, разгарнула моцную, добра арганізаваную работу супроць калектывізацыі, пускаючы ўсякую хлусьню, пагрозы, гаспадарчы ўплыў, а часам і тэрор. Кулацкую хлусьню аб тым, што калектывы арганізуюцца для таго, каб лепш адабраць у сялян жывёлу і збожжа, што на калектывістых будуць накладзены пячаткі і па гэтых пячатках вясною палякі іх будуць вешаць, магчыма сустрэць у латыскіх вёсках у розных канцох рэспублікі. Гэта гаворыць аб тым, што кулацкая агітацыя вядзецца ў шырокім маштабе, арганізаваным парадкам. На самым зьезьдзе высьвятлілася, што зьвяном сувязі паміж кулацтвам розных вёсак зьяўляецца духавенства. Ня гледзячы на змаганьне кулацтва, духавенства і сэктанцтва супроць калектывізацыі, працоўнае латыскае сялянства пад кіраўніцтвам Партыі і рабочае клясы ўжо стала на шлях калектывізацыі сельскай гаспадаркі. За апошні год калгасны рух сярод працоўнага латыскага сялянства значна пашырыўся, але ў параўнаньні з калгасным рухам беларускай і яўрэйскай вёсак наяўны тэмп гэтага руху нас не задавальняе. Пры такіх умовах галоўная ўвага зьезду была сканцэнтравана навокал пытаньняў калектывізацыі. Зьезд зазначыў, што „існуючая ў латыскіх паселішчах хутарская сыстэма ўжо аджыла свой час і не адпавядае ўмовам сацыялістычнага будаўніцтва, што ўвесь ход сацыялістычнага будаўніцтва патрабуе хуткай, рашучай перабудовы латыскае вёскі на новых сацыялістычных падставах“. Для гэтага зьезд прызнаў неабходным пра-

весьці ў працягу году на 100% калектывізацыю ўсяго працоўнага латыскага сялянства. Характэрна, што супроць калектывізацыі ня было ніводнага голасу, толькі 13 галасоў былі за дзьве іншыя прапановы, прадугледжваючыя менш хуткі тэмп калектывізацыі, а 90 галасоў было за калектывізацыю ў працягу году. Такой хуткай карэннай перабудовы латыскай вёскі, якую прадугледжвае зьезд, як галоўнай мэтавай устаноўцы, была падпарадкавана ўся астатняя работа. Работа ў саветах, культасьветная праца, дэлегацкія сходы, друк, антырэлігійная праца, дабрахвотныя таварыствы—усё павінна прыстасавацца і прыстасаваць сваю работу да правядзеньня галоўнага пытаньня — пытаньня калектывізацыі. Школы, хаты-чытальні, чырвоныя куткі, дзіцячыя пляцоўкі павінны існаваць пры калектывах і сваю працу шчыльна ўвязваць з работаю калгасаў. Зьезд выказаўся за ўзмацненьне працы с-с. у напрамку лепшага скарыстаньня саветаў, як зброі дыктатуры пралетарыяту ў наступленьні на кулацтва, за ўзмацненьне ролі батрацтва і беднаты ў саветах супольна з лепшымі серадняками, за поўную ізаляцыю кулацтва, за рашучую барацьбу са скажэньнямі клясавай лініі, якія ў паасобных выпадках адбываюцца пад сьцягам нацыянальнага адзінства.

Улічваючы вялізарныя цяжкасьці, якія трэба перамагчы, каб справіцца з задачай хуткай перабудовы латыскіх вёсак на новых сацыялістычных падставах, перабудовы адначасова ўсяе сыстэмы культасьветнай і савецкай працы, Зьезд зьвярнуўся да ЦК КП(б)Б, як Партыі рабочае клясы, з просьбай аб узмацненьні кіраўніцтва і дапамогі ў справе сацыялістычнага будаўніцтва латыскіх паселішчаў, праз узмацненьне працы партарганізацыі, Латбюро і райнацупаўнаважаных, аб узмацненьні ролі рабочае клясы ў перабудове вёскі, палепшаньні кіраўніцтва беднатой і ўзмацненьні працы па яе згуртаваньні супольна з серадняком для пасьпяховага наступленьня на кулацтва шляхам пасылкі рабочых брыгад, увязваючы працу шэфтаварыстваў з абслугоўваньнем латыскіх паселішч.

Зьезд выпрацаваў дэклярацыю да ўсіх працоўных латышоў СССР з заклікам прыняць у парадку сацыялістычнага спаборніцтва ўдзел у перабудове ўсяе сельскае гаспадаркі на сацыялістычных падставах.

Пастановы зьезду накладваюць вялізарную адказную задачу на ўсіх рабочых і працоўнае латыскае сялянства. Пры братэрскай дапамозе ўсяе рабочай клясы і працоўнага сялянства Беларусі, пры адначасовай дапамозе ўсіх адпаведных савецкіх, каапэрацыйных і прафсаюзных арганізацый, пад цьвёрдым кіраўніцтвам Камуністычнай Партыі з задачай 100% калектывізацыі працоўнага латыскага сялянства магчыма справіцца. А раз гэта магчыма, то так трэба і зрабіць, каб лішні раз даказаць усім правым панікерам памылковасьць іх тэорый у тым, што на шырокі шлях суцэльнай калектывізацыі становяцца такія групы сялянства, сярод якіх хутарская сыстэма існавала стагодзьдзямі, гаспадаркі якіх лічылася ўзорнымі пры хутарызацыі.

Пясьпяховую работу зьезду неабходна лічыць вынікам правільнага ажыцьцяўленьня нацпалітыкі нашае Партыі, пры якой гаспадарча, палітычна і культурна адсталая нацыянальнасьць за кароткі час мае вялізарны ўздым ува ўсіх гэтых галінах, нароўне з працоўнымі ўсіх нацыянальнасьцяй Беларусі.

Палітычныя вынікі зьезду магчыма рэзюміраваць як вялізарную перамогу батрацтва і беднаты супольна з серадняком над кулацтвам, кулацкай ідэолёгіяй, векавым кансэрватыўным гаспадарчым укладам, перамогу над правымі ўхілістымі, як беззваротны адрыў серадняка з-пад уплыву кулацтва. Зьезд рабочых і сялян-латышоў мае вялізарнае гістарычнае значэньне, як цьвёрды паварот ад індывідуальнай хутарской сыстэмы да суцэльнай калектывізацыі, да крэпкай перабудовы латыскай вёскі па сацыялістычнаму.

**А. Думс.**

# Разгарнуць сацыялістычнае спаборніцтва па масавай рабоце сельскіх саветаў.

Ленінская ідэя сацыялістычнага спаборніцтва за апошні час шырока захапіла рабочыя масы.

У выніку разгортваньня сацыялістычнага спаборніцтва на вытворчасьці ўжо маюцца значныя посьпехі: паднялася працоўная дысцыпліна і вытворчасьць працы, панізіўся сабекошт і палепшылася якасьць прадукцыі, пасунулася ўперад рацыяналізацыя вытворчасьці і г. д.

Дзякуючы ініцыятыве і шырокай самадзейнасьці рабочае клясы, мы выканалі першы год пяцігодкі са значным перавышэньнем супроць кантрольных лічб і з яшчэ большым энтузіязмам падхапілі лёзунг—„Выканаць пяцігодку ў чатыры гады".

Ідэя сацыялістычнага спаборніцтва знайшла жывы водгук ня толькі сярод рабочае клясы, але і сярод бядняцка-серадняцкіх колаў вёскі. Сацыялістычнае спаборніцтва ў вёсцы мела сваё разьвіцьцё, галоўным чынам, у напрамку гаспадарчых мерапрыемстваў. І гэта зусім правільна. Задачы грунтоўнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, выкананьне лёзунгу XV зьезду партыі „вёска, ўперад да буйных калгасаў"—ня могуць быць ажыцьцёўлены без мабілізацыі вакол іх актыўнасьці шырокіх колаў батракоў і бядняцка-серадняцкай грамадзкасьці.

Але практыка некаторых раёнаў, саветаў і асобных вёсак у правядзеньні імі сацыялістычнага спаборніцтва паказала побач з дадатнымі бакамі работы і рад адмоўных зьявішч, галоўнейшым з якіх патрэбна лічыць тое, *што ў справу сацыялістычнага спаборніцтва недастаткова ўцягваюцца бядняцка-серадняцкія масы.* У шэрагу выпадкаў умовы па сацыялістычным спаборніцтве абгаварваюцца толькі габінэтным парадкам, зусім не адзіночныя выпадкі, калі ўмовы зусім не афармляюцца (выклікалі на спаборніцтва і на тым супакоіліся).

Бязумоўна, што такое „габінэтнае спаборніцтва" ніякай карысьці ня дасьць, а толькі затрымае тую нябывалую актыўнасьць, якая зараз назіраецца ў вёсцы.

Перад саветамі, як арганізатарамі пралетарскіх мас, пастаўлена *вельмі важная і адказная задача—максымальнага ўцягненьня працоўных у справу кіраваньня дзяржавай, прыцягненьня іх да непасрэднага ўдзелу ў сацыялістычным будаўніцтве.*

Сацыялістычнае спаборніцтва ў вёсцы павінна стаць асноўным мэтадам ажыўленьня масавай работы і ўцягненьня праз ўсю сыстэму апошняй беднаты і серадняцтва ў сацыялістычнае будаўніцтва.

У разгарнуўшайся рабоце саветаў па сацыялістычным спаборніцтве назіраюцца самыя разнастойныя арганізацыйныя формы кіраўніцтва апошнім: камісіі, штабы, тройкі, пяцёркі і г. д. Большасьць з гэтых арганізацыйных форм на справе аказаліся няжыцьцёвай выдумкай. Былі выпадкі, калі ўмовы заключаліся ад імя с/саветаў і РВК.

Зусім відавочна, што патрэбна ўнесьці некаторую яснасьць у тым—*хто павінен ажыцьцяўляць агульнае кіраўніцтва сялянскім спаборніцтвам, хто павінен заключаць ад імя вёскі і паміж асобнымі вёскамі ўмовы?*

У горадзе ўся гэта работа ўскладзена на прафсаюзы.

У вёсцы гэту работу неабходна ускласьці на сельскія саветы. *Савет—арганізатар мас у іх барацьбе за сацыялістычную перабудову вёскі.*

Усе ўмовы, а таксама і тое, каго выклікаць, павінны быць абмяркованы папярэдне ў сэкцыях, на пленуме савету, а ў далейшым перайсьці на шырокае абгаварэньне ўсяе вёскі.

У тых вёсках, дзе арганізаваны вытворчыя нарады (с.-г. сэкцыі), умовы павінны быць на іх абмеркаваны і прыняты.

Усё гэта бязумоўна выклікае неабходнасьць сталага, сыстэматычнага кіраўніцтва з боку партыйных органаў (ячэйка, РК) і самага актыўнага ўдзелу ў сацыялістычным спаборніцтве членаў партыі, камсамалу, сяброў прафсаюзаў, каб тым самым забясьпечыць клясава-вытрыманы характар умоў па сацыялістычным спаборніцтве. Пры такой арганізацыйнай

форме магчыма забясьпечыць найбольшы посьпех спаборніцтва ў вёсцы. Там, дзе ўмовы мелі за сабой саветы і ўвесь бядняцка-серадняцкі актыў, яны давалі найлепшыя вынікі.

Вышэй мы гаварылі, што без мабілізацыі актыўнасьці шырокіх батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх пластоў вёскі немагчыма ажыцьцяўленьне тых вялізарнейшых задач, якія пастаўлены партыяй перад нашай краінай.

Як-жа практычна магчыма гэтага дабіцца?

Тут зусім няправільна было-б устанаўліваць нейкія рамкі ў формах арганізацыі мас, альбо выдумліваць нейкія „рэцэпты“, ужываньне якіх адразу магло-б вырашыць справу.

Узросшая актыўнасьць бядняцка-серадняцкай часткі вёскі на падставе росту клясавай сьвядомасьці і паглыбленьня клясавай барацьбы ў вёсцы—складае ўсе неабходныя прадпасылкі да таго, каб гэтую актыўнасьць арганізаваць у правільным клясавым напрамку і накіраваць яе ў сацыялістычнае рэчышча нашага будаўніцтва.

*Для гэтага патрэбна ажывіць усе выпрабаваныя і апраўдаўшыя сябе на практыцы формы масавай работы саветаў.*

Нікому не сакрэт, што найбольш адстаючай галінай работы саветаў зьяўляецца масавая работа. Адставаньне гэта патрэбна тлумачыць: няўменьнем, а падчас і нежаданьнем нізавых работнікаў паставіць дзейнасьць саветаў на рэйкі масавасьці, адсутнасьцю абмену вопытам, неўменьнем і кансэрватызмам у скарыстаньні лепшых прыкладаў у рабоце другіх саветаў.

З гэтым „застоем“ у масавай рабоце патрэбна пакончыць.

Саветы, якія ўступаюць паміж сабою ў сацыялістычнае спаборніцтва, павінны памятаць у першую чаргу, што пасьпяховасьць выкананьня ўмовы будзе залежыць ад таго, у якой ступені савет справіцца з задачай уцягненьня мас у спаборніцтва праз існуючыя формы і мэтады масавай работы Таму, арганізуючы спаборніцтва, неабходна мець на ўвазе такія паказчыкі яго, як:

1) *Найлепшая пастаноўка работы сэкцый савету* (рэгулярнасьць пасяджэньняў, поўная плянавасьць, палепшаньне зьместу работы сэкцый, найбольшае ўцягненьне выбаршчыкаў у работу сэкцый, большае ўцягненьне і лепшае скарыстаньне на практычнай рабоце ў сэкцыях сяброў і кандыдатаў с/с., дэлегатак-жанчын, лепшае кіраўніцтва работай сэкцый з боку прэзыдыуму савету).

2) Лепшая сувязь сяброў с/с і прэзыдыуму з выбаршчыкамі і справаздачнасьць перад імі (поўнае ажыцьцяўленьне вызначаных законам тэрмінаў справаздачнасьці).

3) Поўная плянавасьць у рабоце прэзыдыуму і пленуму, поўная наведваемасьць пасяджэньняў сябрамі і кандыдатамі с/с., павялічэньне колькасьці пленумаў, „выяздных“ (па вёсках свайго с/с.), прыцягненьне на паседжаньні пленумаў і прэзыдыумаў сябрамі с/с. па 1—2 выбаршчыкаў з бядняцкага актыву, лепшае кіраўніцтва грамадзкімі арганізацыямі.

4) 100 проц. выкананьне наказу выбаршчыкаў.

5) Лепшая пастаноўка работы груп і сходаў беднаты (выжыць кампанейскі характар у працы з беднатой).

6) У некаторых мясцох перашкаджаюць рабоце працаўнікі, якія разлажыліся, і клясава-чужы элемэнт, які пралез у саветы і выканкомы. Гэты элемэнт у пасобных выпадках накіроўвае вырашэньне саветамі важнейшых гаспадарчых пытаньняў на няправільны шлях—таму барацьба за клясавую чыстату саветаў павінна ўвайсьці ў штодзенную работу саветаў. Выяўленьне шкодных элемэнтаў і поўнае ажыцьцяўленьне супроць іх права выбаршчыкаў на датэрміновае адкліканьне павінна знайсьці сваё адлюстраваньне ў масавай рабоце саветаў.

7) Выжыць момэнты падмены работы прэзыдыуму і пленуму работай Старшыні і Сакратара с/с, для чаго дабіцца поўнай прапрацоўкі саветамі (на пленумах, сэкцыях, сходах) чарговых гаспадарчых і культурных пытаньняў і г. д.

Магчыма, напрыклад, паміма спаборніцтва паміж асобнымі саветамі на лепшую пастаноўку работы сэкцый, правесьці спаборніцтва паміж сэкцыямі свайго савету, унутры кожнай сэкцыі, паміж сябрамі с/с на лепшую наведваемасьць пленумаў і выкананьне даручэньняў савету. Альбо можна арганізаваць спаборніцтва

паміж с-г. сэкцыямі с/с, якія згодна пастановы XVI партканфэрэнцыі павінны ператварыцца ў вытворчыя нарады (па прыкладу прадпрыемстваў). Шэраг матар'ялаў з месц сьведчыць аб тым, што с.-г. сэкцыі яшчэ не перабудавалі сваёй работы ў адпаведнасьці з рэарганізацыяй іх і, ня выконваючы сваіх асноўных задач, займаюцца дробязнымі пытаньнямі, як разьмеркаваньне насеньня і інш., падмяняючы такім чынам сабою і групу беднаты і сельКСУ.

Каб умовы спаборніцтва не заставаліся толькі на паперы, неабходна арганізаваць пэрыядычна ўзаемную праверку ступені выкананьня ўмовы шляхам вылучэньня камісій, асьвятленьня ходу работы па сацыялістычным спаборніцтве ў насьценных газэтах, дзе ёсьць у акруговых газэтах і ў цэнтральным друку, у прыватнасьці на старонках нашага часопісу „Саветы Беларусі“.

Асьвятляючы гэтыя пытаньні ў друку, магчыма будзе скарыстоўваць лепшыя прыклады і вопыт правядзеньня спаборніцтва ў другіх мясцох.

Вось тыя асноўныя пытаньні сацыялістычнага спаборніцтва па масавай рабоце с/саветаў, якія патрэбна ў бліжэйшы час вырашыць у практычнай дзейнасьці саветаў.

Пры гэтым неабходна дамагацца максымальнага ўцягненьня ў спаборніцтва бядняцка-серадняцкай масы і батрацтва, каб такім шляхам паралізаваць усякія спробы кулацтва падарваць гэтую справу.

Больш ініцыятывы і самадзейнасьці саветаў у справе ажыўленьня масавай работы праз сацыялістычнае спаборніцтва. **Ів. Сянько.**

# Чаму дрэнна працуюць камісіі с-саветаў.

*(У парадку абгаварэньня).*

У большасьці сельскіх і местачковых саветаў Магілеўскай акругі—камісіі не працуюць.

У некаторых саветах камісіі нават да гэтага часу не арганізаваны альбо арганізаваны ня ўсе, якія трэба арганізаваць, згодна палажэньня пра с-саветы.

Па ведах з 10-ці раёнаў на 1 VII-г., у гэтых раёнах было 12 с-саветаў, дзе арганізавана толькі па 2 камісіі ў савеце; 23 сельсаветы на 3 камісіі; 35 – па 4 камісіі; 95—па 5; у 2-х с-саветах—па 1 камісіі, у 1-м—камісіі зусім не арганізаваны.

Працу камісій райвыканкомы ацэньваюць так (з пастаноў па дакладах сельскіх і местачковых саветаў): „камісіі арганізаваны, але да працы ня прыступілі“; праца ў камісіях адсутнічае, камісіі слаба працуюць; камісіі, за выключэньнем зямельнай, не працавалі“ камісіі не разумеюць сваіх функцый. Усе камісіі, за выключэньнем сельска-гаспадарчай, нават, не рабілі ніводнага пасяджэньня і кіраўніцтва з боку с-с. гэтымі камісіямі было недастатковае і г. д.

Усімі Райвыканкомамі за студзень—верасень заслухана 96 дакладаў сельскіх і местачковых саветаў і толькі па 4-х с-саветах ацэнка іншая.

Калі ўзяць справаздачу сельскіх і местачковых саветаў за першае паўгодзьдзе г. г. аб арганізацыйна-масавай рабоце, дык адносна работы камісій па 188 саветах маюцца такія лічбы: 50 сельскіх саветаў, альбо 26 проц. зусім ня маюць ведаў аб рабоце камісій (інакш кажучы, пры гэтых саветах камісіі зусім не працавалі); у 99 саветах (52 проц.) усімі камісіямі кожнага савету за паўгода праведзена 1—6 пасяджэньняў і за тым, прыблізна ў 20 проц. сельскіх і местачковых саветаў, камісіі працавалі больш-менш здавальняюча.

У часткі саветаў праца камісій, бязумоўна, была. Магілеўскім Райвыканкомам абсьледавана 16-саветаў у мэтах вывучэньня становішча масавае працы саветаў і вывады гэтага абсьледваньня работу камісій характарызуюць так:

„З усіх камісій лепш пастаўлена работа ў культурна-асьветных і сельска-гаспадарчых камісіях. У першыя ўваходзіць настаўніцтва і камсамол і гэтыя групы, як больш культурныя і актыўныя, ляпей арыентуюцца і падбіраюць формы і мэтады работы, а сельска-гаспадарчыя камісіі маюць добры грунт для практычнай работы ў сувязі з рашучымі мерамі

па ўздыму ўраджайнасьці і калектывізацыя, якія праводзяцца".

Ня гледзячы аднак, на тое, што камісіі і мелі (як гэта адзначае Магілеўскі РВК) грунт і ўмовы для працы—усё-ж такі ў 80 проц. сельскіх саветаў камісіі не працавалі.

Якія-ж прычыны шкодзілі разгортваньню работы камісій?

Першае і асноўнае—гэта недастатковасьць кіраўніцтва камісіямі, як з боку сельсаветаў непасрэдна, так і з боку райвыканкомаў—у галіне кіраваньня масавай работай сельсаветаў.

Возьмем падрыхтоўку пытаньняў да пасяджэньняў пленумаў і прэзыдыумаў сельскіх і местачковых саветаў. За першае паўгодзьдзе ў 60 проц. сельскіх і местачковых саветаў камісіямі не падрыхтавана ніводнага пытаньня да пасяджэньня пленумаў альбо прэзыдыуму савету. Гэта значыць, што сельскія і местачковыя саветы яшчэ не навучыліся абапірацца ў сваёй рабоце на камісіі, камісіі ў прапрацоўку пытаньняў ня ўцягваюцца.

Недастатковае ўсьведамленьне сельскімі саветамі ролі камісій, як арганізацый спрыяючых уцягненьню ў работу саветаў бядняцка-серадняцкага актыву, як арганізацый, якія павінны дапамагаць саветам у іх рабоце, пацягнула адрыў камісій ад сельскіх саветаў, недастатковасьць кіраўніцтва камісіямі. Гэта адбіваецца і ў плянах работ сельскіх саветаў і ў практычнай рабоце. Сельсаветы абыходзяць камісіі і даюць заданьні непасрэдна членам с-савету той ці іншай вёскі. Справаздачы і даклады асобных членаў саветаў заслухоўваюцца на прэзыдыумах і, нават, пленумах больш часта, чым справаздачы і даклады камісій.

## Трэба больш увагі з боку РВК.

Далей. Характэрнымі зьяўляюцца адносіны Райвыканкомаў да работы камісій, якія існуюць пры сельскіх і местачковых саветах.

Калі райвыканкомы заслухоўваюць даклады аб рабоце сельскіх ці местачковых саветаў, то на гэтых дакладах яшчэ даюцца ў той ці іншай форме прапановы аб палепшаньні масавай работы. Калі-ж райвыканкомы даюць распараджэньні і паказаньні ці прымаюць пастановы па асобных пытаньнях гаспадарчага і культурнага будаўніцтва (самаабкладаньне, пасеўная кампанія, укамплектаваньне школ і г. д.)—ніколі ў прапановах с-саветам не напамінаецца, што да гэтае работы ў першую чаргу яны павінны прыцягваць камісіі, існуючыя пры саветах. У пастановах усіх РВК за час студзень-верасень г. г. толькі ў двох выпадках было такое напамінаньне сельскім саветам: Магілеўскім і Шклоўскім РВК па дакладах аб пасеўных кампаніях.

Бязумоўна, калі сельскі, ці местачковы савет атрымае распараджэньне ад РВК і ў гэтым распараджэньні бачыць, што пытаньне трэба абмеркаваць на сходзе беднаты, на пленуме савету, на сялянскіх сходах і г. д., а пра камісіі там нічога не сказана,—с-савет і забываецца пра камісіі.

Апрача таго, значная частка Райвыканкомаў, наогул, мала ўдзяляла ўвагі пытаньням палепшаньня масавай работы саветаў.

Калі ўзяць даклады сельскіх і местачковых саветаў на прэзыдыумах і пленумах РВК, дык гэтыя (даклады) на мясцох разьмяркоўваюцца так: у студзені—дакладаў ня было; у лютым таксама, у сакавіку—заслухана 10 дакладаў, у красавіку—13, траўні—19, чэрвені—19, ліпені—77, жніўні—13 і верасьні—9. Значыць, даклады і справаздачы саветаў райвыканкомамі пачалі заслухоўвацца ў сакавіку—красавіку м-цах, а ў некаторых РВК (Крычаўскі, Быхаўскі, Лупалаўскі), яшчэ пазьней—у ліпені месяцы.

Такім чынам з часу перавыбараў саветаў на працягу 3—4 месяцаў ніякіх паказаньняў аб масавай рабоце не давалася.

## Толькі асобныя РВК удзялялі дастаткова ўвагі масавай рабоце.

Нельга, аднак, сказаць, што справа гэтая аднолькава ва ўсіх раёнах.

Некаторыя райвыканкомы пытаньнямі масавай работы займаліся стала і, бязумоўна належныя вынікі маюцца. Менавіта, Касьцюковіцкім РВК за 9 месяцаў заслухана 17 дакладаў сельскіх саветаў і ў пастановах па ўсіх дакладах у першую чаргу паказаньні даваліся аб масавай рабоце і, у прыватнасьці—аб ра-

боце камісій. Клімавіцкім РВК пытаньням масавае работы таксама ўдзялялася дастатковая ўвага. Чавускі РВК, калі заслухоўваў даклад сельсаветаў—разам з гэтым заслухоўваў садаклад якое-небудзь камісіі і гэта мела значны ўплыў на палепшаньне работы камісій (па Чавускаму раёну камісіі больш-менш працавалі ў 50 проц. сельскіх саветаў).

Другою значнаю перашкодаю ў працы камісій зьяўляецца распыленасьць членаў камісій па розных вёсках на значнай адлегласьці, чаму зьбіраць членаў камісій на пасяджэньні вельмі цяжка.

Затым, частка сельскіх і местачковых саветаў, а таксама і райвыканкомаў, глядзіць на масавую работу і асабліва работу камісій, як на нейкую асобную галіну, лічыць, што практычная работа—адно, а масавая—другое. Так, прынамсі, можна меркаваць па пастановах Райвыканкомаў у галіне гаспадарчай і культурнай работы.

Рабоце камісій і наогул, масавай рабоце саветаў перашкаджае шмат прычын, але праз вывучэньне гэтых прычын магчыма іх зьнішчэньне і палепшаньне масавай работы. Арганізацыйным Аддзелам ЦВК зроблены значны крок па дапамозе саветам у масавай рабоце, тым, што дадзены прыкладныя пляны работы саветаў і камісій.

Справа яшчэ мела-б большыя вынікі, калі-б райвыканкомы і саветы больш выяўлялі ў друку дасягненьні і недахопы масавай работы саветаў. **А. Д.**

# Ёсьць дасягненьні, але больш недахопаў.

(*Праца Дукорскага с-с., Сьмілавіцкага раёну*).

„Каму шмат дадзена, з таго больш і патрабуецца“ кажа прыказка.

Дукорскаму с.-с. шмат дадзена. Умовы працы ў Дукорах лепшыя, чым у шмат іншых с-с. Па-першае, тут маецца буйны Саўгас. Па-другое, тут маецца сялянскі рабфак і тым самым значны культурны актыў. Па-трэцяе, тут маюцца 2 партыйныя і 2 камсамольскія ячэйкі. Акрамя таго, тут значная колькасьць інтэлігенцыі, бо ў мястэчку маецца сямігодка, а ў савеце 5 школ.

Як-жа пастаўлена праца Дукорскага с-савету?

Некаторыя дасягненьні ў працы Дукорскага с-савету маюцца, але вельмі мізэрныя. С-савет правёў, і то ня поўнасьцю, самаабкладаньне, што дасьць 9000 руб. Нарыхтоўкі хлеба і бульбы—выкананы на 100 проц. Падпіска на III пазыку індустрыялізацыі выканана амаль на 90 проц. Маюцца дасягненьні ў правядзеньні аграмінімуму, а чыстка насеньня праводзіцца на 100 проц.

І ўсё-ж ці можна сказаць, што Дукорскі с-савет працуе здавальняюча? Не.

*Першы* і самы буйны недахоп—гэта тое, што с-с яшчэ не перабудаваў сваю працу ў адпаведнасьці з задачамі правядзеньня пяцігадовага пляну. У с-с. маюцца 4 калгасы. Але-ж большая частка гаспадарак дробныя, якія вядуць трохпольны севазварот. Што-ж с-савет зрабіў і робіць для пашырэньня калектывізацыі, і для ўзмацненьня існуючых калгасаў? Ці ставіў с-савет даклады іх на пленумах с-с. альбо на сходах сялян? Ці арганізуе с-с экскурсіі сялян у калгасы.

Аб усім гэтым амаль нічога ня чуваць.

Ня здолеў сельсавет правільна паставіць і працу з актывам. А апошняга ня мала ў с-с. і ў працы ён зацікаўлены. Замест таго, каб арганізаваць працу актыву ў камісіях с-с, прапрацоўваючы ў апошніх усе прынцыповыя пытаньні Прэзыдыуму і Пленуму, с-с. непасрэдна кіруе кожным актывістым, даючы яму тыя ці іншыя заданьні. А тым часам камісіі амаль зусім не працуюць.

Не працуюць і грамадзкія арганізацыі: Асоавіяхім, Прэч Няпісьменнасьць, Чырвоны крыж, бо кіраўніцтва з боку с-с імі няма.

Зусім ня ўцягнуты ў працу с-с. батракі, а іх маецца па с-с. 65 чалавек.

Ці можна пры такім становішчы сказаць, што с-с. уцягнуў у сваю працу актыў? Ніколі.

Дукорскі с-с. мае дасягненьні, але працу сваю належным чынам яшчэ не паставіў.

С-с. трэба цэнтр увагі накіраваць на сацыялістычную перабудову вёскі.

**Рыгор Ф.**

# Уцягненьне мас ў работу гарсаветаў

(*Магілеўская акруга*).

*У Магілеўскім Гарадзкім Савеце* масавая работа некалькі адрозьніваецца ад работы ў гарсаветах неакруговых гарадоў. Магілеўскі гарадзкі савет стаў у гэтым годзе прыкладам масавае работы на акрузе.

Новаабраны склад Магілеўскага Гарсавету (Прэзыдыум) зразу-ж узяў зусім правільны напрамак—усе важнейшыя пытаньні да іх вырашэньня перадаваць на папярэдняе абмеркаваньне сэкцый. Усе пытаньні, якія абмяркоўваюцца сэкцыямі (у тым ліку і пратаколы сэкцый), разглядаюцца на прэзыдыуме гарсавету пры абавязковым удзеле прадстаўнікоў сэкцыі. Такая пастаноўка справы стварыла ў гэтым годзе рашучы пералом у рабоце сэкцый Магілеўскага Гарсавету. Сэкцыі сталі працаваць у цеснай сувязі з прэзыдыумам і пленумам гарсавету, сэкцыі сталі непасрэдным дапаможнікам прэзыдыуму ў вырашэньні розных гаспадарча-культурных пытаньняў. Такія пытаньні, як плян грамадзкіх работ, пастанова аб кватэрнай плаце, пытаньне аб забясьпечаньні рабочых гораду прадуктамі харчаваньня, аб укамплектаваньні школ і г. д.—вырашаліся толькі пасьля абмеркаваньня іх сэкцыямі і прапановы сэкцый у большасьці зьяўляліся асноваю для вынясеньня тых ці іншых рашэньняў. Наданьне рабоце сэкцый практычнага жыцьцёвага зьместу—пацягнула павялічэньне ў сэкцыях рабочага актыву—ня членаў савету. Да гэтага году ў сэкцыях Магілеўскага Гарсавету, апрача членаў савету, працавалі толькі прымацаваныя дэлегаткі. Зараз у сэкцыях гарсавету працуе значная колькасьць рабочых з прадпрыемстваў і студэнтаў тэхнікумаў.

Якімі-ж спосабамі (апрача непасрэднай сувязі ў разьвязваньні практычных пытаньняў) Магілеўскаму Гарсавету ўдалося стварыць перапом у працы сэкцый?

Сярод многіх іншых форм у гэтым напрамку трэба выдзяліць цьвёрдую плянавасьць працы Магілеўскага Гарсавету і палепшаньне кіраўніцтва работаю сэкцый. Пасяджэньні Прэзыдыуму Гарсавету адбываюцца адзін раз у тыдзень. Парушэньняў гэтага парадку за ўвесь 1929 г. амаль ня было. Таксама ў строга пл навым парадку адбываюцца пасяджэньні пленуму (адзін раз у месяц). Кожная сэкцыя мае свой плян працы і яго пры рымліваецца.

Ступень выкананьня плянаў сэкцыямі правяраецца прэзыдыумам гарсавету і ў выпадку невыкананьня плянаў—прэзыдыум сваячасова ўжывае адпаведныя меры і гэты сталы нагляд за працаю сэкцый не дапушчае паслабленьня іх дзейнасьці.

Кіраўніцтва работаю сэкцый ажыцьцяўлялася праз склісканьне нарад старшынь і сакратароў сэкцый па пытаньнях масавае работы і праз, даволі частае, заслухоўваньне дакладаў і справаздач сэкцый на пасяджэньнях пленуму і прэзыдыуму.

Станоўчыя вынікі ў сэнсе палепшаньня масавае работы Магілеўскага гарсавету дала практыка правядзеньня пленумаў і прэзыдыумаў гарсавету, а таксама пасяджэньняў сэкцый на прадпрыемствах і ў рабочых клюбах.

Неп срэдна на прадпрыемствах праведзены ў гэтым годзе адзін пленум і 4 пасяджэньні прэзыдыуму Гарсавету. Усе сэкцыі, за выключэньнем сэкцыі нарасьветы, таксама практыкавалі правядзеньне пасяджэньняў на прадпрыемствах. Актыўнасьць выступленьняў у такіх выпадках значна большая, хоць і наогул на ўсіх пасяджэньнях сэкцый, у выступленьнях як члены гарсавету, так і актыў (ня члены) прымаюць дастатковы ўдзел.

Менавіта, па пратакольных запісах, удзел у выступленьнях характарызуецца такімі лічбамі: удзельнічала на пасяджэньнях—271, выступала ў сярэднім у спрэчках па 1 дакладу—71 чал. альбо 26 проц. прысутнічаўшых.

Ёсьць, бязумоўна, недахопы ў масавай рабоце Магілеўскага гарсавету. Сюды

трэба аднесьці ўсё яшчэ недастатковую наведваемасьць членамі гарсавету пасяджэньняў пленуму і сэкцый.

Дэпутаты гарадзкога савету ўсё яшчэ ў сваёй працы абмяжоўваюцца толькі наведваньнем пленумаў, наведваньнем пасяджэньняў сэкцый і выкананьнем даручэньняў, як я даюцца прэзыдыумам альбо сэкцыямі. Уласнае ініцыятывы, адпаведна тых правоў і абавязкаў, якія дадзены дэпутатам палажэньнем пра гарсаветы—члены гарсавету не праяўляюць; у прыватнасьці, члены гарсавету зусім не карыстаюцца сходамі сваіх выбаршчыкаў для інфармацыі іх аб рабоце савету.

*У гарсаветах неакруговых гарадоў* масавая работа пастаўлена слабей. Сэкцыі ў работу ня ўцягнуты. За паўгода ў пераважнай колькасьці сэкцый было ня больш 2—4 пасяджэньняў пленумаў і бюро.

Абсьледваньнем Быхаўскага Гарсавету ўстаноўлена, што больш-менш працуе здавальняюча сэкцыя РСІ, сэкцыя сельска-гаспадарчая і народнае асьветы, але-ж і гэтыя сэкцыі працу сваю ў большасьці праводзяць на паперы; маюцца пастановы, якія ня выкананы. Вучот правадзімай працы ў сэкцыях пастаўлен нездавальняюча; вайсковая сэкцыя не арганізавана; таксама не арганізавана камісія па палепшаньні працы і быту жанчын і мер да арганізацыі яе з боку гарсавету ня прымаецца; наогул кіраўніцтва сэкцыямі з боку гарадзкога савету недастатковае.

Гэтая ацэнка ў значнай меры адносіцца і да астатніх гарсаветаў. Напрыклад, па Чавускаму гарсавету к пасяджэньню пленуму—сэкцыямі за паўгода падрыхтаваны толькі 4 пытаньні, таксама і ў Чэрыкаўскім гарсавеце: к пасяджэньню прэзыдыуму за паўгода сэкцыямі Клімавіцкага гарсавету прапрацавана 8 пытаньняў і Чавускага гарсавету—10 пытаньняў.

Пры разглядзе пастаноў сэкцый (пратаколаў) у прэзыдыумах—прадстаўнікі сэкцый не выклікаюцца і пастановы сэкцый доўгі час застаюцца не разгледжанымі. Як прыклад: Быхаўскі гарсавет 3/IV зацьвердзіў 4 пратаколы сэкцыі РСІ, 10/VII—зацьвердз ў 5 пратаколаў культурна-санітарнай сэкцыі.

Гэты разгляд і зацьверджаньне пратаколаў „пачкамі“ сьведчыць аб тым, што прэзыдыумы і сэкцыі гарсаветаў неакруговых гарадоў ня маюць цеснай сувязі ў рабоце, што кіраўнікі неакруговых гарсаветаў яшчэ ў большасьці выпадкаў абгаварваюць і вырашаюць пытаньні, ня выносячы іх на абмеркаваньне мас і, такім чынам, не садзейнічаюць палепшаньню масавай работы гарсавету.

Станоўчымі момантамі ў рабоце гарсаветаў неакруговых гарадоў трэба прызнаць плянавасьць і некаторую наладжанасьць справаздачнасьці.

Аб плянавасьці працы можна меркаваць па рэгулярнасьці пленумаў. Так, Пленумы Шклоўскага гарсавету адбыліся: 26/I, 27/II, 26/III, 26/IV, 28/V, 30/VI, 16/VII.

Клімавіцкага гарсавету: 17/II, 3/III, 19/V і 30/VI.

У Чавускім і Чэрыкаўскім гарсаветах плянавае скліканьне пленумаў таксама парушалася рэдка. Справаздачнасьць перад выбаршчыкамі нельга сказаць, што наладжана ў неакруговых гарсаветах, але ўсё-ж такі некаторыя неакруговыя гарсаветы апярэдзілі па гэтым відзе сувязі з выбаршчыкамі—Магілеўскі гарсавет. Так, Клімавіцкім Гарсаветам зроблена 13 справаздач аб дзейнасьці гарсавету і 29 членаў гарсавету адлічваліся ў сваёй рабоце.

Быхаўскім гарсаветам зроблена 4 справаздачы на дэлегацкіх сходах.

**А. Дубовік.**

Ад рэдакцыі: Артыкул тав. Дубовіка не дае яснага ўяўленьня аб рабоце Гарсаветаў Магілеўшчыны. У артыкуле няма ніякага ўспаміну аб тым, як гарсаветы адбілі ў сваёй працы пытаньні пяцігадовага пляну і як яны мабілізавалі ўвагу рабочых мас да пытаньня індустрыялізацыі (сац. спаборніцтва, зьніжэньне сабекошту і г. д.) і да справы сацыялістычнай перабудовы вёскі.

Чакаем дадатковых матар'ялаў.

# Ці правільна працаваў Бабруйскі Гарсавет.

## 1. Што зараз патрабуецца.

Мы да гэтага часу вельмі часта ня ўмеем ўвязваць практыку нашай работы з задачамі пяцігадовага пляну. Ня толькі ў сельсаветах і РВК, але і ў гарсаветах мы будуем часта „наогул“; мы маем посьпехі ў будаўніцтве, але забываемся праверыць, наколькі наша работа цалкам увязана з выращэньнем задач, якія стаяць перад Партыяй і Савецкай Уладай. А між тым, гэта мае нямалае значэньне. Возьмем жыльлёвае будаўніцтва. Можна будаваць жыльлёвыя памяшканьні наогул, можна набліжаць жыльлёвае будаўніцтва да рабочых раёнаў, улічваючы патрэбы апошніх.

Тое самае і ў школьным будаўніцтве. Можна будаваць школы „наогул“ і можна будаваць школы з такім разьлікам, каб яны далі нам патрэбныя ў бліжэйшы час кадры для прамысловасьці і сельскай гаспадаркі. Гэта дачыняецца літаральна ўсіх галін працы.

Умець увязаць сваю працу з задачамі пяцігадовага пляну так, каб кожнае мерапрыемства паскарала яго ажыцьцяўленьне—галоўнае патрабаваньне сучаснага моманту. Нядаўнае абсьледваньне Бабруйскага гарсавету адзначыла, што 1) „у рабоце Бабруйскага Гарсавету недастаткова адбіты апошнія дырэктывы Партыі і 5-га Зьезду Саветаў“; 2) „гарсавет ня сумеў сканцэнтраваць увагу членаў савету і працоўных навакол вузлавых пытаньняў сучаснага рэканструкцыйнага пэрыяду“.

Гэтыя два палажэньні выклікалі вялікія супярэчаньні з боку фракцыі прэзыдыуму савету. Ї ўсё-ж прыходзіцца сказаць, што гэта ёсьць, і ня толькі ў Бабруйску.

## 2. Ці павінен бюджэт адбіваць пяцігодку?

Гэта як быццам бясспрэчнае пытаньне выклікае, аднак, у Бабруйску спрэчкі. Праўда, па гарадзкім бюджэце не праходзяць асыгнаваньні на прамысловасьць, але і ў культурным, і ў жыльлёвым будаўніцтве і ва ўсіх іншых галінах задачы пяцігодкі могуць і павінны мець сваё адлюстраваньне. Узяць хаця-б пытаньне аб кадрах. Што важней зараз, *у даны момант*: ці падрыхтоўваць кадры мэханікаў, аграномаў, тэхнікаў, ці рыхтаваць музыкантаў? Гарсавет лічыць, што тое і другое *аднолькава* важна, і таму на прафадукацыю (купля станкоў для прафшкол) асыгнавана 10.000 рублёў і на музычную школу—столькі-ж сама. На новыя стыпэндыі вучням асыгнавана ўсяго 2.230 рублёў. Між тым, процант рабочых сярод скончваючых школы далёка недастатковы.

Але і прыбытковая частка бюджэту далёка недасканалая. Курс на „міласьціўца-прыватніка“ быў пры разьмеркаваньні прыбытковай часткі бюджэту вельмы моцны. 70% камунальнае сенажаці здаецца з таргоў—інакш кажучы, кулаком, бо „гэта пытаньне бюджэту“. Сад у 18 дзесяцін здаваўся прыватніку, бо „гэта зноў бюджэт,—прыватнік дасьць грошы“. Для арганізацыі-ж гаспадаркі самому бяз „міласьціўца - прыватніка“ ў гарсавета духу не хапіла і да гэтага часу не хапае. Адна надзея, што Акрплян выратуе.

Ну, а раз прыватнік—„міласьцівец“, дык нельга-ж на яго занадта націскаць. Ї вось камісія гаркому выяўляе, што прыватнік бакалейшчык Шумахэр, які мае 13.200 р. гадавога чыстага прыбытку, вызваляецца на палову ад накладзенай на яго пені, гандляр рыбай Хэймер, які мае 5.400 р. гадавога прыбытку, цалкам вызваляецца ад накладзенай на яго пені і г. д. Праўда, Заг. камгасу зьняты за такія штукі з працы, але нельга сказаць, што справа тут ужо абстаіць цяпер добра, тым больш, што выяўлены гэтыя моманты не гарсаветам, які гэтых зьявішч нават і не заўважыў.

## Прамысловасьць пачакае.

У Бабруйску маецца не адзін, а цэлых два трэсты мясцовай прамысловасьці: прамтрэст і камунтрэст. Сюды не ўваходзяць прадпрыемствы, якія

кіруюцца ВСНГ. Пытаньне аб тым, як працуюць гэтыя прадпрыемствы, як праходзіць сацыялістычнае спаборніцтва і ці праводзіцца яно наогул, ці ёсьць палепшаньне ў рабоце гэтых прадпрыемстваў—усім гэтым гарсавет дагэтуль не пасьпеў зацікавіцца, хаця ў пляне працы і вызначаліся даклады трэстаў. Пасьпеецца. Між тым, на прадпрыемствах мясцовай прамысловасьці далёка ня ўсё гладка. Узяць хаця-б нявыхады на працу. Лік іх павялічыўся, у параўнаньні з мінулым годам, амаль на ўсіх прадпрыемствах: па электрастанцыі—на 36%, па друкарні—на 80%, па чыгуна-ліцейным заводзе—на 93%. Асабліва павялічыўся нявыхад на працу па хворасьці: па электрастанцыі—на 172%, друкарні—на 85%, чыгуна-ліцейным заводзе—на 330%. Чым гэта выклікаецца? Што трэба рабіць, каб паменшыць гэтае зьявішча? Гарсавет ня толькі не паставіў сабе такога пытаньня, але і ня ведаў нават аб існаваньні такіх зьявішч.

Пытаньні-ж аб сацыялістычным спаборніцтве, аб пераходзе на бесьперапынную вытворчасьць і г. д. зусім не закраналіся.

## Клясавая лінія ў жыльлёвым пытаньні кульгае.

Бабруйск яўляецца адзіным горадам у БССР, дзе няма зусім савецкіх гасьцініц і дзе значная частка буйнейшых дамоў знаходзіцца ў прыватнікаў. Вобразна выражаючыся, можна-б сказаць, што „Бабруйск яшчэ зьяўляецца шчасьлівым кутком“ прыватнага домаўладаньня“. Чым тлумачацца такія „мяккія“ адносіны да домаўласьнікаў—цяжка сказаць, але факт застаецца той, што, ня гледзячы на наяўнасьць раду бесгаспадарча - ўтрымліваемых дамоў, яны застаюцца ў прыватніка.

Гэта, аднак, ня ўсё. Нават 30% норма яшчэ ня цалкам выяўлена і забрана. Летась былі вылучаны брыгады, утвараліся абсьледваньні, складаліся шматлікія анкеты. Ніякіх вынікаў гэта работа амаль ня дала і ў гэтым годзе, калі зноў падкралася патрэба, зноў выяўлены незабраныя 60 з лішкай пакояў, а да выяўленьня 30% плошчы на акраінах яшчэ не падыходзілі. Вырашэньне жыльлёвага крызісу накіравана ў бок новага будаўніцтва, якое ідзе па бюджэтных меркаваньнях марудна. Ушчыльненьне-ж прыватных кватэр амаль не вытваралася. Ці не дзякуючы зноў такі „пачуцьцю вялікае павагі“ да прыватнага домаўладаньня? А ў Бабруйску-ж маюць месца і таемны гандаль вучасткамі і здача ў арэнду пакояў нават у Жактаўскіх дамох.

## Ці ўсё добра ў культурнай рабоце.

Значная зацікаўленасьць, праяўленая гарсаветам да музычнае школы, знаходзіцца ў адваротнай прапорцыі к працы яго па клясавым падборы вучняў наогул. Партыя і Савецкая Ўлада паставілі рашуча пытаньне аб падрыхтоўцы пралетарскіх спэцыялістых. Таму пытаньне аб складзе выпуску школ набывае вельмі буйнае значэньне. Хто канчае школы ў Бабруйску? Хто з Бабруйску паедзе ў нашыя ВНУ? Падамо пару лічбаў. У VII групе школ сямігодак процант індывідуальна абкладзеных і дзяцей гандляроў складае 4,4%, ня лепшы і склад VIII і IX групы, якія спэцыяльна рыхтуюць ў ВНУ. Так, у гэтых групах па 1-й школе мы маем: процант рабочых—12, процант індывідуальна-абкладзеных і дзяцей гандляроў—15,5%.

Тымчасам, прэзыдыум гарсавету гэтага скліканьня не займаўся ні пытаньнем аб камплектаваньні школ, ні пытаньнем аб выпуску.

## Масавасьць у рабоце гарсавету.

На сходзе рабочых „Бабршвэю“ адзін рабочы заявіў, што гарсавет адарваўся ад рабочых“, чым і тлумачыцца паслабленьне яго працы. Ці праўда гэта? Трэба сказаць, што калі не на ўсе 100%, то на 50% гэта заява правільная. Чаго ніяк не ўдаецца гарсавету зрабіць—гэта праводзіць на прадпрыемствах адкрытыя пасяджэньні прэзыдыуму ці сэкцый. Прызначае гарсавет пасяджэньне прэзыдыуму на комбінаце ў 3 гадзіны, выяжджае туды ў 4 і нікога з рабочых не застае. Прызначае сэкцыя РСІ свой плэнум на мэблявай фабрыцы ў 5 гадзін, зьяўляецца на прадпрыемства ў 7 гадзін

і зноў амаль не застаюць рабочых і г. д. Справаздачы і даклады на прадпрыемствах амаль не праводзіліся. Дэпутацкія групы на прадпрыемствах не арганізаваны і бываюць выпадкі, што рабочыя ня ведаюць сваіх дэпутатаў,

## Ці трэба займацца пяцігадовым плянам?

Пытаньні пяцігадовага пляну СССР і БССР мільганулі міма гарсавету. Іх дакрануліся пры абмеркаваньні вынікаў V зьезду саветаў—і хопіць, абы ў рэзалюцыі па гэтым дакладзе пункт аб павялічэньні вытворчасьці працы і сацыялістычным спаборніцтве маецца. Пытаньне аб выніках першага году пяцігодкі, аб дасягненьнях ці недахопах працы першага году па Бабруйску гарсаветам ня ставілася ні на сваіх паседжаньнях, ні на абмеркаваньне мас. Ды самога-та пяцігадовага пляну разьвіцьця гораду ня маецца. Акрплян склаў, праўда, пяцігадовы плян разьвіцьця акругі. Гэты плян будзе ахопліваць мабыць і горад Бабруйск, але гарсавету нават і не абвясьцілі аб гэтым. Калі ў Акрпляне запыталіся: „Як-жа вы будзеце складаць плян бяз гораду Бабруйску“, там адказалі: „як-небудзь самі зробім“.

Адкуль-жа ведаць аб пяцігадовым пляне разьвіцьця гораду рабочаму, калі і сам гарсавет аб ім нічога ня ведаў.

Між тым быў час, калі да гэтага пляну прыступалі і такая-сякая цікавасьць да яго праяўлялася. Урыўкі гэтага пляну маюцца і ў архітэктара і ў каморніка. Але пра ўсё гэта забыліся, і так яно і засталося ляжаць у нетрах камгасу.

## За нямногімі дасягненьнямі нельга забывацца пра многія недахопы.

Было-б, зразумела, поўным паклёпам, калі сказаць, што ў рабоце Бабруйскага Гарсавету няма дасягненьняў. Яны маюцца і самае большае з іх—гэта стварэньне значнага актыву навакол гарсавету і яго сэкцый. 48 абсьледваньняў, вытвараных па лініі сэкцый, з іх шэраг абсьледваньняў вельмі каштоўных — 217 удзельнікаў абсьледваньняў. Шэраг новых мэтадаў у працы, унесеных праз сэкцыі, як, напрыклад, прапрацоўка пытаньня аб дыспансэрызацыі рабочых, якая прынята па прыкладу Бабруйску і ў Менску і некаторыя іншыя пытаньні—усё гэта вялікі плюс. Ёсьць дасягненьні і ў будаўніцтве. Ніхто не забываецца, што ў горадзе Бабруйску на 64 кілёмэтры працягу яго вуліц да вайны былі замошчаны толькі 4 кілёмэтры, што ў працягу шмат год тут зусім ня было амаль новага значнага будаўніцтва. Усё гэта зараз маецца, усё гэта зараз робіцца, хаця часам і ня досыць шпаркім тэмпам. Ці могуць, аднак, гэтыя дасягненьня пакрыць недахопы?

Далёка не. Калі ў рабоце гарсавету няма досыць рашучай і выразнай клясавай лініі, калі ў рабоце гарсавету ня ўдзелена досыць увагі вытворчасьці працы, рабоце прамысловасьці, сацыялістычнаму спаборніцтву, забясьпечаньню рабочых; калі пытаньні бюджэту і пяцігадовага пляну не прапрацаваны на сходах рабочых, то гэта ўсё што азначае? Гэта значыць, што дырэктыва Партыі і 5-га Зьезду „максымум увагі пытаньням пяцігодкі“ не адбіта ў рабоце гарсавету ў дастатковай ступені. Гэта трэба ўлічыць. Гэта трэба паправіць рашуча і крута.

А. В.

**Праз разгортваньне масавай работы саветаў згуртуем актыўнасьць працоўных мас вакол вузлавых пытаньняў сацыялістычнага будаўніцтва.**

# Як працуе пасялковы савет на Асінбудзе.

*(Аршанская акруга).*

Праца пасялковага савету Асінбуду ў дачыненьні прыстасаваньня яе да абслугоўваньня рабочых будаўніцтва і залучэньня іх у практычную дзейнасьць камісій савету, яго прэзыдыуму і пленуму, знаходзіцца яшчэ і да гэтага часу ў стадыі арганізацыйнага афармленьня.

Цэнтр увагі ў працы гэтага пасялковага савету накірованы выключна на абслугоўваньне бядняцка-серадняцкага насельніцтва, якое займаецца сельскай гаспадаркай. Вакол савету ня згуртаваны актыў з рабочых будаўніцтва. Вучот батрацтва і беднаты зусім адсутнічае.

Справаздачнасьць аб рабоце прэзыдыуму перад пленумам савету пастаўлена добра, але-ж справаздачнасьць асобных дэпутатаў перад выбаршчыкамі адсутнічае.

Зусім не працуюць арганізацыйна-афармленыя масавыя камісіі пры пасялковым савеце. У практычную работу савету ня ўцягваюцца жанчыны-дэпутаткі і дэлегаткі.

Пасялковы савет пры правядзеньні гаспадарча-палітычных кампаній (вучот аб'ектаў абкладаньня, распаўсюджаньне 3 пазыкі індустрыялізацыі, хлебанарыхтоўкі) не выкарыстоўвае актыўнасьці рабочых будаўніцтва і вясковае беднаты.

Грамадзкія арганізацыі будаўніцтва зусім слаба папулярызуюць, асабліва сярод сэзонных рабочых, гаспадарча-палітычныя мерапрыемствы Савецкае Улады (пытаньне аб хлебанарыхтоўках на сходах рабочых да гэтага часу яшчэ не абмяркована).

Дрэнна пастаўлена дапамога пасялковаму савету і з боку прафэсіянальных арганізацый—рабачкомы ў сваёй дзейнасьці вельмі часта нават падмяняюць пасялковы савет. Такім чынам, пасялковы савет, як кіруючы савецкі орган, не адчуваецца.

Дэпутаты савету зусім сябе не праяўляюць на будаўніцтве.

У сваёй рабоце пасялковы савет дапусьціў пры выяўленьні кулацкіх гаспадарак—скрыўленьне клясавай лініі (не абкладзены ў індывідуальным парадку с.-г. падаткам гаспадаркі, якія карыстаюцца наёмнай працай 30—40 дзён). Ня было належнае ўвагі гэтаму пытаньню і з боку райвыканкому.

З боку асобных адказных работнікаў будаўніцтва — спэцыялістых дапушчана грубая палітычная памылка, якая выразілася ў пастаноўцы пытаньня перад сялянствам на пленуме савету аб электрыфікацыі хутарскіх гаспадарак. Выходзіць, што мы зьбіраемся не разбурваць дашчэнту спадкі сталыпіншчыны, а наадварот—умацоўваць яе, паколькі ставіцца пытаньне на пленуме савету аб асьвятленьні электрычнасьцю хутароў.

*Пытаньне аб калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак будаўніцтвам на пленумах пасялковага савету, сельскіх сходах высоўваюцца не рашуча і адпаведная работа па стварэньню с.-г. калектываў пасялковым саветам, будаўніцтвам і грамадзкімі арганізацыямі будаўніцтва да апошняга часу праводзіліся надзвычайна слаба.*

Райвыканком з свайго боку таксама дапусьціў грубыя парушэньні дырэктыў ЦВК БССР і Акрвыканкому ў адносінах складаньня бюджэту пасялковага савету (бюджэт склаў сам РВК бяз ведама прэзыдыуму і пленуму пасялковага савету).

Жывое кіраўніцтва і практычная дапамога пасялковаму савету з боку райвыканкому адчуваецца недастаткова.

Неабходна пасялковаму савету і кіраўнічаму складу будаўніцтва больш рашуча ставіць перад бядняцка-серадняцкімі пластамі сялянства пытаньне аб калектывізацыі і, у прыватнасьці, дабіцца канкрэтных вынікаў па арганізацыі буйнога калгасу па плошчы, якая земляўпарадкоўваецца. Дабіцца сваячасовага выкананьня заданьняў па распаўсюджваньні 3-й пазыкі індустрыялізацыі, спагнаньня с.-г. падатку і пляну хлебазагатовак.

С. Л.

# Упарадкаваць вылучэньне.

**Яшчэ няма яснага разуменьня, каго лічыць вылучэнцам. Вылучэньне пакуль не набыло масавасьці. Трэба ад вылучэньня адзінак перайсьці да масавага вылучэньня.**

У той час, як справа вылучэньня рабочых і сялян у дзяржаўны апарат набывае асаблівае значэньне і зьяўляецца аднэй з мер, каб зрабіць наш апарат здольны'м ажыцьцяўляць чарговыя задачы сацыялістычнага будаўніцтва, саветамі і выканкомамі гэтай галіне працы зьвяртаецца яшчэ надзвычайна мала ўвагі.

Да апошняга часу гэта праца не набыла яшчэ плянавасьці. Саветы і выканкомы ня толькі не праяўляюць ініцыятывы ў справе вылучэньня, але нават не пасьпяваюць выконваць дадзеных у гэтай галіне заданьняў. Больш таго—на мясцох і да гэтага часу існуе значная блытаніна ў разуменьні, каго лічыць вылучэнцам. Аб гэтым сьведчыць тое, што з прысланых у Аргаддзел, у парадку вучоту вылучэнцаў, анкет большая палова запоўнена не на вылучэнцаў. Райвыконкамамі прыслана 174 анкеты, з іх сапраўднымі вылучэнцамі аказаліся толькі—72, гарсаветамі прыслана 36 анкет, з іх на сапраўдных вылучэнцаў—26, акрвыканкомамі—36 анкет, з іх на вылучэнцаў—24.

Такім чынам, *яснага разуменьня, каго лічыць вылучэнцам няма як у райвыканкомах, гэтак у гарсаветах і нават ў акрвыканкомах.* У лік вылучэнцаў імі ўключаюцца: тэхнічныя працаўнікі—касіры, справаводы, загадчыкі хат-чытальняў, альбо адказныя працаўнікі выканкомаў, але-ж ня вылучэнцы, бо яны зьяўляліся ўжо служачымі і да гэтых пасад у той час, як вылучэнцамі лічацца рабочыя і сяляне вылучаныя непасрэдна з вытворчасьці і сельскай гаспадаркі, альбо нізавой савецкай работы (старшыні і сакратары с/сав., старшыні сельскіх КСУ) на кіруючую адказную работу ў выканкомы.

*Устанаўленьне яснасьці на мясцох у пытаньні — каго лічыць вылучэнцам — зьяўляецца яшчэ і зараз аднэй з задач для ўпарадкаваньня справы вылучэнства наогул.*

Ня гледзячы на тое, што вылучэньне ў дзяржапарат праводзіцца з 1925 года, яно яшчэ не набыло плянавасьці і сыстэмы, вылучаюць яшчэ пажарным парадкам без усялякай падрыхтоўкі і без абгаварваньня іх на адпаведных сходах. Вучот кадраў (рэзэрву) для вылучэньня, нават зараз, калі праходзіць чыстка савецкага апарату і калі патрабуецца масавае вылучэньне ў выканкомах яшчэ адсутнічае. Бязумоўна, што пры такім парадку вылучэньня дапускаецца шмат памылак і выпадковасьці ў падборы кандыдатур для вылучэньня. У выніку гэтага і бываюць выпадкі няўдалага падбору кандыдатур як з пункту погляду іх сацыяльнага складу (Масальскі), гэтак і іх працаздольнасьці. Па Магілеўскай акрузе, напрыклад, у газэце пішуць, што вылучэнка — сялянка Афанасьева з работай старшыні РКСТУ ня справілася: „т. Афанасьева ня выконвала дырэктыў, даваемых райвыканкомам, п'янствавала, была зьвязана з кулацтвам, скажала клясавую лінію ў рабоце. У выніку васьмімесячнае працы на пасадзе старшыні РайКСУ т. Афанасьевай некаторыя сельскія камітэты прышлі амаль да поўнага развалу“ (Газ. „Магілеўскі Камунар“).

Вельмі часта вылучэнцы не спраўляюцца з даручанай работай і таму, што з боку кіраўнікоў гэтых устаноў не атрымоўваюць кіраўніцтва. Часта бывае і так, як адзначыла ў сваім выступленьні на апошняй Сэсіі ЦВК БССР Член ЦВК тав. Іванова, што „жанчыну вылучаюць, а потым кажуць, што яна нічога ня робіць. На адказнай рабоце—адзначае яна—жанчыне патрэбна добрае кіраўніцтва, бо часта сама жанчына недастаткова падрыхтавана“.

*Яшчэ больш важным момантам зьяўляецца скарыстаньне вылучэнцаў і стварэньне умоў для іх працы.* Бываюць выпадкі, калі вылучэнцаў скарыстоўваюць дзе папала, каб толькі даць яму чымнебудзь заняцца. У заметцы „Ў полац-

кім АВК заціраюць вылучэнцаў". У заметцы, якая поўнасьцю пры праверцы пацьвердзілася, пісалася: „Работнікі Полацкага АВК вельмі нядбайна адносяцца да вылучэнцаў і заціраюць іх. Калі на пасаду намесьніка старшыні АВК была вылучана батрачка Каршунова, то другі намесьнік старшыні АВК Ступакоў замест жывое практычнае работы прынёс ёй цэлы том законаў і загадаў вывучаць іх. Наогул з першых дзён сваёй работы ў АВК тав. Каршунова замест дапамогі сустрэла гіранічныя і няўважлівыя адносіны з боку работнікаў акрвыканкому. Толькі ў апошні час акрвыканкомаўцы „зьмілаваліся" над Каршуновай і даручылі ёй прыём наведвальнікаў з вёскі".

*Часта, такім чынам, вылучэнца ставяць у такія ўмовы, на такую працу, калі ён ня можа праявіць сябе, калі яму цяжка альбо нават немагчыма мець уплыў на апарат; выпадковае, фармальнае скарыстаньне нярэдкае зьявішча ў справе вылучэнства.* Кіраўнікі ўстаноў яшчэ часта боязна ставяць вылучэнцаў на кіруючыя і адказныя пасады, на баявыя вучасткі працы.

Бязумоўна, у справе вылучэньня за апошні час ёсьць і значны пералом: ёсьць павялічэньне колькасьці вылучэнцаў, паляпшэньне іх складу, праводзіцца работа па падрыхтоўцы і падвышэньні кваліфікацыі вылучэнцаў (курсы, нарады, пасылка ў вячэрні рабфак).

Канкрэтна мы маем: з агульнага ліку 131 вылучэнцаў—74 альбо 56,5% вылучаны за 1929 г.; жанчын у складзе вылучэнцаў у 1929 г. 20,6% і толькі 7,0% —у 1928 г.; рабочых—45,8% у 1929 г., а ў 1928 г.—19,1%; беларусаў—73,3%, яўрэяў—12,2%, расейцаў—6,1%, палякаў—5,3%, латышоў — 3,1% у 1929 г. і ў 1928 г., беларусаў—90,4%, яўрэяў—5,2%, расейцаў—3,5%, палякаў—0,9%.

Але-ж гэты колькасны рост ня вычэрпвае ўсяе работы па вылучэнству, трэба, каб ён праходзіў разам з палепшаньнем якасьці работы. Нават і гэтыя колькасныя дасягненьні нельга залічыць кожнай акрузе ў роўнай меры: па акругах вылучэнцы разьмяркоўваюцца: Аршанская—21, Бабруйская—14, Віцебская—16, Гомельская — 23, Магілеўская — 13, Менская—10, Полацкая—7.

Пададзеныя лічбы вылучэнцаў па акругах таксама сьведчуць аб тым, што вылучэньне пакуль яшчэ праводзіцца слаба, асабліва адстаюць Менская і Полацкая акругі.

Зараз найбольш важнай задачай у галіне вылучэньня зьяўляецца: *устанаўленьне плянавасьці і арганізацыйнае яснасьці ў гэтай рабоце на мясцох.* Саветам і выканкомам трэба перайсьці ад блытанага падліку і адшуканьня па ўстановах вылучэнцаў да плянавай, сыстэматычнай работы па масавым вылучэньні рабочых, батракоў, сялян беднякоў і актывістых серадьнякоў у дзяржапарат на баявыя вучасткі работы, утварыўшы і ўмовы для іх працы ў апараце. Канкрэтна трэба: 1) *кожнаму Акрвыканкому мець поўны пералік пасад і плян замяшчэньня іх вылучэнцамі* (што ўжо і пачынаюць рабіць некаторыя АВК, напр., Гомель, Ворша); 2) *выжыць выпадковасьць пры намячэньні кандыдатур для вылучэньня,* шляхам увядзеньня вучоту рэзэрву і падрыхтоўчай работы сярод апошняга; 3) *стварыць умовы для працы ўжо вылучаных, пэрыядычна робячы праверку гэтых умоў;* 4) *забясьпечыць ўзьняцьце кваліфкацыі вылучэнцаў праз правядзеньне нарад, курсаў, пасылку ў вячэрнія школы, рабфакі і інш.*) і дапамагаючы ім у штодзеннай іх рабоце; і 5) *наладзіць сталы і чоткі вучот вылучэнцаў і ўсяе працы па вылучэнству.*

Н.

# Агляд важнейшых пастаноў Прэзыдыуму ЦВК БССР

## *за кастрычнік і лістапад 1929 г.*

### 1. Судабудаўніцтва БССР.

Палажэньне пра Судабудаўніцтва пастановай ЦВК і СНК БССР за 5 кастрычніка 1929 г. зьменена і дапоўнена наступнымі правіламі. Увесь склад акруговых судоў (старшыня, яго намесьнікі і члены) выбіраецца адпаведнымі АВК, прычым пастановы АВК аб выбраньні, а таксама аб адклікаваньні, зьяўляюцца канчатковымі і не патрабуюць зацьверджаньня НКЮ, як гэта было раней.

Памочнікі акруговых пракурораў, якія абслугоўвалі пэўную частку акругі зараз названы вучастковымі пракурорамі.

### 2. Аб рабоце органаў ЗАГС'у.

У справе ўкараненьня і замацаваньня новага быту, а таксама ў справе барацьбы на антырэлігійным фронце органы ЗАГС'у павінны адыгрываць значную ролю. Паміж тым сучаснае становішча гэтых органаў нездавальняючае ў сэнсе ўмоў іх працы, абсталяваньня памяшканьня, падбору працаўнікоў, сувязі з культурна асьветнымі установамі і грамадзкімі арганізацыямі і г. д. Органы ЗАГС'у звычайна не даюць справаздач працоўным масам аб сваёй рабоце і абмяжоўваюць сваю дзейнасьць выключна тэхнічнымі абавязкамі—запісу ў адпаведныя кнігі. Для зьнішчэньня ўсіх гэтых недахопаў і для правільнай пастаноўкі работ органаў ЗАГС'у Прэзыдыум ЦВК БССР абежнікам ад 5 кастрычніка 1929 г. прапанаваў усім АВК зьвярнуць належную ўвагу на органы ЗАГС'у і іх інструктаваньне, прадугледзіўшы па мясцовых бюджэтах сродкі на ўтварэньне неабходных умоў іх работы і на палепшаньне матар'яльнага становішча іх работнікаў.

### 3. Натарыяльнае палажэньне.

12 кастрычніка 1929 г. зацьверджана новае палажэньне аб натарыяце. Гэта палажэньне ўстанаўляе, што сельскія, местачковыя і гарадзкія саветы тых гарадоў, дзе няма натарыяльных кантор, маюць права ўчыняць наступныя натарыяльныя дзеяньні: пасьведчаньне правільнасьці розных копій і праўдзівасьці подпісаў на дакумэнтах, якія ня маюць значэньня маемасных угод; пасьведчаньне дагавораў аб куплі-продажу, заставе, мене, дарэньні, найманьні маемасьці на тэрмін ня больш году і на дастаўку прадуктаў свае гаспадаркі, калі гэтыя дагаворы заключаюцца паасобнымі грамадзянамі паміж сабой альбо з першастковымі каапэратывамі і дзяржаўнымі і грамадзкімі арганізацыямі, прадпрыемствамі і ўстановамі і сума іх ня больш 300 руб., а пры куплі-продажу і заставе будынкаў—500 руб. і калі адпаведная маемасьць знаходзіцца на тэрыторыі данага савету.

### 4. Аб хлебазагатоўках.

У мэтах пасьпяховага правядзеньня хлебазагатоўчай кампаніі Прэзыдыум ЦВК БССР 12 кастрычніка 1929 г. дазволіў АВК уводзіць у неабходных выпадках платную працоўную гужавую павіннасьць для падвозкі хлеба да месц яго пагрузкі на чыгуначныя і водныя шляхі, а таксама дазволіў да 1 лютага 1930 г. уводзіць платную працоўную павіннасьць для пагрузкі і выгрузкі хлебных грузаў. 21 кастрычніка 1929 г. гэта пастанова была пашырана і на падвозку, пагрузку і выгрузку бульбы.

### 5. Аб прыёме наведвальнікаў.

17 кастрычніка 1929 г. Прэзыдыум ЦВК у пастанове па дакладу аб дзейнасьці Прыёмнай ЦВК прапанаваў усім АВК, РВК і саветам БССР зьвярнуць больш увагі на вырашэньне скарг і хадайнічаньняў працоўных мясцовымі органамі ўлады і ўстановамі, з мэтай разгрузкі ЦВК ад такіх спраў, якія павінны канчаткова вырашацца на мясцох. Аб выкананьні дырэктыў у справе прыёму і абслугоўваньня наведвальнікаў і вырашэньня іх заяў Прэзыдыум ЦВК у далейшым заслухае спэцыяльныя даклады АВК і РВК.

### 6. Аб ільготах вайсковаслужачым.

Заслухаўшы даклад аб выніках ужываньня Кодэксу Законаў аб ільготах і перавагах для вайсковаслужачых РСЧА і РСЧФ і іх сем'яў, Прэзыдыум ЦВК

17 кастрычніка 1929 г. канстатаваў невыкананьне мясцовымі органамі ўлады дырэктыў аб арганізацыі юрыдычнай дапамогі вайскаваслужачым і іх сем'ям, адсутнасьць сталай і дакладнай праверкі і вучоту ў гэтай галіне, а таксама наяўнасьць цяганіны ў справах аб дачы льгот, асабліва па сацыяльнай забясьпецы і водпуску лесаматар'ялаў і няправільнае разьмеркаваньне крэдытаў. Дан шэраг практычных прапаноў цэнтральным і мясцовым установам зьнішчыць паказаныя недахопы. Уведзена сыстэматычная гадавая справаздача аб выніках ужываньня Кодэксу.

## 7. Аб перападрыхтоўцы нізавога савецкага апарату.

27 кастрычніка 1929 г. Прэзыдыум ЦВК канстатаваў, што сыстэма перападрыхтоўкі работнікаў нізавога савецкага апарату, шляхам арганізацыі для іх курсаў, значна дапамагае ўзьняцьцю палітычнага ўзроўню нізавых работнікаў і набыцьцю імі практычных ведаў. З гэтай прычыны пастаноўлена такія курсы арганізоўваць кожны год, для чаго прапанована мясцом прадугледжваць штогодна па бюджэтах неабходныя сродкі на перападрыхтоўку работнікаў нізавога савецкага апарату.

## 8. Пра парадак зацьверджаньня статуту жылкаапэрацыі.

27 кастрычніка 1929 г. Прэзыдыум ЦВК зацьвердзіў пастанову пра парадак зацьверджаньня нармальных статутаў жыльлёвых каапэратываў усіх відаў і акруговых саюзаў жыльлёвай каапэрацыі. Згодна гэтай пастановы паказаныя статуты зацьвярджаюцца НКУС пасьля ўзгадненьня з НКЮ і НКПрацы.

## 9. Аб акруговых кіраўніцтвах будаўнічага кантролю.

У сувязі са скасаваньнем пасады рэспубліканскага інжынэра і перадачы адпаведных функцый мясцом, Прэзыдыум ЦВК 11 лістапада 1929 г. зацьвердзіў Палажэньне пра акруговыя кіраўніцтвы будаўнічага кантролю, якія ўтвараюцца на правох аддзелаў АВК, падпарадкоўваюцца апошнім і адначасова—камітэту будаўніцтва пры ЭКАНА. Да кампэтэнцыі акруговых кіраўніцтваў аднесены: тэхнічна будаўнічы кантроль і тэхнічна-эканамічнае рэгуляваньне будаўніцтва ў акрузе, яго падлік, забясьпечаньне грамадзкай бясьпекі ў дачыненьні да будаўніцтва і выкананьне ў галіне будаўніцтва паасобных даручэньняў АВК. Акруговыя кіраўніцтвы будаўнічага кантролю складаюцца з інжынэра, які назначаецца АВК, памочніка інжынэра і патрэбнага штату супрацоўнікаў.

## 10. Аб утварэньні сакратарыяту ЦВК БССР.

Замест Распараднага Пасяджэньня Прэзыдыуму ЦВК 11 лістапада 1929 г. утворан Пастановай Прэзыдыуму ЦВК Сакратарыят ЦВК БССР. Склад Сакратарыяту ЦВК зацьверджан наступны: т. т. *Чарвякоў* (Старшыня), *Хацкевіч, Сташэўскі, Ашаровіч, Дубаўцоў* і кандыдаты—*Рагачэўскі* і *Анішчанка*.

Сакратарыят папярэдне разглядае і падрыхтоўвае пытаньні, падлягаючыя зацьверджаньню Прэзыдыуму ЦВК, а таксама вырашае арганізацыйна-адміністрацыйныя і грашовыя пытаньні, прыватныя хадайнічаньні, справаздачы Аддзелаў і Камісій Прэзыдыуму ЦВК, пытаньні па даручэньні Прэзыдыуму ЦВК і інш.

## 11. Аб парадку склікаиьня зьездаў і нарад.

17 лістапада 1929 г. выдана пастанова ЦВК і СНК „аб парадку склікаиьня зьездаў і нарад“. Гэта пастанова ўсе зьезды падзяляе на 3 катэгоры: усебеларускія, акруговыя і раённыя.

Усебеларускія зьезды і нарады дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў рэспубліканскага значэньня, усебеларускіх каапэрацыйных, цэнтральных і грамадзкіх арганізацый (Асоавіахім, Аўтадор і інш.) склікаюцца з дазволу НК РСІ, які вырашае гэта пытаньне з погляду мэтазгоднасьці і эканоміі сродкаў і ўстанаўляе час зьезду і лік іх удзельнікаў.

Усебеларускія зьезды і нарады, якія склікаюцца грамадзкімі, каапэрацыйнымі

і іншымі арганізацыямі згодна іх статутаў—склікаюцца з дазволу НКУС.

Акруговыя зьезды і нарады падзяляюцца таксама, як і ўсебеларускія і дазвол на іх скліканьне дае: мясцовым дзяржаўным установам і прадпрыемствам—акруговы аддзел РСІ, а мясцовым, грамадзкім і каапэрацыйным арганізацыям—адміністрацыйны аддзел АВК.

Дазвол на раённыя зьезды дае РВК.

Гэтая пастанова не распаўсюджваецца на зьезды саветаў, партыйныя зьезды, нарады і канфэрэнцыі і на прафэсыянальныя зьезды і нарады.

## 12. Аб павялічэньні адказнасьці за няплату падаткаў.

Шляхам зьмены 93 арт. Крымінальнага Кодэксу 17 лістапада 1929 г. значна павялічана адказнасьць за няплату падаткаў альбо збораў па абавязковым акладным страхаваньні: калі ёсьць магчымасьць заплаціць іх і калі ўжо былі ўжыты м
ры прымусовага адміністрацыйнага сп
гнаньня—няплата выклікае пакараны
аж да 3-х год пазбаўленьня волі (ран
да аднаго году) і злосная няплата в
клікае пакараньне ня менш як на адз
год (раней быў паказаны толькі макс
мальны тэрмін пакараньня—2 гады п
збаўленьня волі).

## 13. Аб надбаўках настаўнікам.

17 лістапада 1929 г. прынята пастанова ЦВК і СНК БССР „пра ўстанаўленьне пэрыядычных надбавак да асноўнай заработнай платы некаторых катэгорый пэдагагічных працаўнікоў і загадчыкаў народных дамоў і хат-чытальняў“. Гэтая пастанова дзейнічае з 1 кастрычнік 1929 г. Пэрыядычныя надбаўкі ўстано лены ў разьмеры ад 60 да 150 рублёў у год, у залежнасьці ад тэй навучальнай установы, дзе працуе настаўнік. Пэрыядычныя надбаўкі выплачваюцца за кожныя пяць поўных гадоў працы.

П.

Друкарня БДВ. Заказ № 207. У ліку 12.000. Галоўлітбел № 595.